PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (1963) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 26 СНЕЖНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*А лес стаіць маўклівы ціха...* **Фота Уладзіслава Завадскага**

*Чытачам „Нівы", якія святкуюць па новаму стылю спакойных і радасных Каляд жадае Рэдакцыя*

## АДЧЫНІЛІ ГРАНІЦУ

— На гэтую хвіліну мы доўга чакалі, — гаварылі ўзрадаваныя жыхары Полаўцаў і Чаромхі. — Столькі ў нас тамака за мяжой сваіх родных, але каб іх адведаць, трэба было ехаць найменш 200 кіламетраў, цераз Тарэспаль. А цяпер, во, тры кіламетры і буду ў дзядзькі ў Пяшчатцы ці ў брата ў Высокім.

Крыху, аднак, хваляваў іх факт, што немагчыма будзе перасякаць мяжу пехатой ці на веласіпедзе, а толькі на машыне. Не кожны яе мае. Сапраўды, новы кантрольна-прапускны пункт між Польшчай і Беларуссю Полаўцы — Пяшчатка прызначаны толькі для легкавых машын і толькі для грамадзян Рэспублікі Беларусь і Рэчыпаспалітай.

Новы пагранпункт невялікі ў параўнанні з іншымі міжнароднымі пераходамі. Перш за ўсе будзе ён служыць — і пэўна такая ягоная асноўная мэта — мясцовым кантактам Беласточчыны і Берасцейшчыны — заўважыў у сваёй кароткай прамове беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс. У сваю чаргу ягоны берасцейскі калега — намеснік старшыні берасцейскага Аблвыканкама (панашаму віцэ-ваявода), Леанід Лемяшэўскі, падымаючы тост за новы пераход, вельмі дасціпна сказаў: „Каб нашыя добрыя кантакты перайшлі ў кантракты", што прысутныя ўзнагародзілі воплескамі.

Традыцыйна былі перарэзаны стужкі на мяжы, бел-чырвоная на польскім і чырвоная на беларускім баках. Калі звярнуў я ўвагу спадару Лемяшэўскаму, чаму праразваецца акурат не нацыянальная бел-чырвона-белая, а толькі чырвоная стужка, дык той без лішняй хітрасці сказаў, што для яго асабіста магла б быць абы-якая стужка: „белая, красная, синяя, жёлтая — всё равно". Зразумела, што чыноўнікі з Берасця, так як усе постсавецкія беларускія чыноўнікі, гаварылі выключна на расейскай мове, хіба нават не ўяўляючы сабе, што служаць акурат не Расеі, а Беларусі і менавіта за гэта ім плацяць.

Традыцыйна новы пераход пасвяцілі на славу Богу і людзям у добрае карыстанне святары, бадай іх было шасцёх ці сямёх, абедзвюх канфесій і з абедзвюх краін. Два каталіцкія ксяндзы — палякі — толькі служаць у Беларусі, а наогул з'яўляюцца польскімі місіянерамі. І для іх менавіта гэты пераход быў патрэбны. Польскай каталіцкай місіянерскай службе аблегчыць ён працу.

Адна з падчаромхаўскіх жанчын, пабачыўшы такую колькасць ксяндзоў, аніяк не магла стрымаць сваіх эмоцый: „Бацюшка то трэба, каб быў, але навошта толькі ксяндзоў, каб іх...". „Цішэй, Верка, цішэй, — супакойвала яе другая кабета, — а то яшчэ ўночы спаляць".

Аднак галоўнае — з 6-га снежня ад 11-тай гадзіны новы кантрольна-прапускны пункт Полаўцы — Пяшчатка адкрыты, і з таго, што мне вядома, ужо ствараюцца там невялікія чэргі. Уся кантрольна-мытная працэдура адбываецца на беларускім баку. Пераход працуе кругласутачна. І яшчэ адно слова пра ўрачыстасць. Немалую ролю адыгралі тутака мясцовыя чаромхаўскія ўлады: войт, гмінныя чыноўнікі, самаўрадаўцы. Яны віталі гасцей, так бы мовіць арганізавалі ўрачыстасць. Гэта добра, бо калі ўвесну 1993 года адчынялі падобны пераход для таварнага транспарту Бабро́ўнікі — Бераставіца, ніхто з улад Беластоцкага ваяводства не падумаў пра сапраўдных гаспадароў — гмінныя ўлады, на якіх тэрыторыі знаходзіцца пераход. Відаць, у Беластоку пачалі думаць. Ці не запозна?

**ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ**

## ПАДАРОЖЖА Ў ПАСЫНКІ

Даехаць з Беластока ў Пасынкі — няпростая справа. І з Бельска, і з Нарвы аўтобусы ходзяць рэдка. Давялося б і мне тры гадзіны бадзяцца па Бельску, а ў Пасынкі заехаць толькі ў поўдзень, калі б не рашылася злавіць „аказію" і ехаць у вёску. Пашчасцілася, адзін дзядзька завёз мяне на месца.

У школе якраз быў перапынак. Дзеткі паказвалі мне дарогу ў настаўніцкі пакой, калі ў калідорчыку сустрэў мяне дырэктар школы. Магістр Яўген Хількевіч даяздждае з Бельска, але вясковыя справы яму добра вядомыя, бо настаўнічае ўжо ў Пасынках дзесяць год. Дырэктар Хількевіч расказвае мне пра школу і вучняў. Ён, як і некаторыя настаўнікі, гаворыць са мной на палескім дыялекце.

— „Па-свойму" найлепш, — кажуць настаўнікі.

Я таксама гавару з імі на дыялекце і адразу ствараецца зразуменне і свойская атмасфера. Дырэктар вядзе мяне да солтыса і раіць, што варта тут пабачыць і з кім пагаварыць. На жаль, солтыса няма ў хаце. Дырэктар дадае, што людзі тут солтыса хваляць, бо ён старанны і адказны чалавек. Умее афармляць складаныя вясковыя справы. У вёсцы красуецца новы будынак пажарнага дэпо.

— Калі ёсць патрэба, пажарнікі едуць, — кажа адна жанчына. — А так у гэтым будынку робяць вяселлі. Цяпер у хаце ніхто ў нас ужо вяселля не спраўляе. І гэта вельмі добрая справа.

У Пасынках знаходзіцца пункт скупкі малака. Возяць сюды малако гаспадары не толькі з Пасынак, але і з навакольных вёсак. Для многіх гэта галоўная крыніца прыбытку. Малако прывозяць на досвітку.

Наведваю таксама мясцовага святара. Праз памылку заходжу да дзяка, але яго дзеткі ўжо ў парозе галосяць: „Tatusia nie ma w domu". Маладая жанчына паказвае мне на прыгожы новы будынак:

— Там батюшка, а здесь псаломщик.

### На парафіі

вітае мяне матушка. Калі даведваецца, што я з „Нівы", запрашае ў гасцінны пакойчык. Святара сёння таксама няма, паехаў у Бельск. Матушка гаворыць на тутэйшай мове. Сямейства Сурэляў у Пасынках ад нядаўна. 14 гадоў былі на парафіі ў Шчэціне. Прыехалі ў студзені, а ўжо відаць, як многа змянілася. Мясцовыя людзі свайго святара называюць „будаўнічым". Якраз будуецца каплічка „каб людзі на Крашчэнне не ціснуліся за вадой". Вядзецца таксама рамонт царквы.

— Трэба было змяніць дах, падваліны, абшыўку, дылі і электраўстаноўку, — расказвае матушка. — Грошы атрымалі з датацыі (160 мільёнаў), але многа робіцца „парафіяльнымі сіламі".

☞ Працяг на стар. 5

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Białorusini jako mniejszość narodowa, nie mogą narzekać, mają świątynie, szkoły, prasę, kluby, swobodnie posługują się swoim językiem. Dlaczego na naszych ojczystych ziemiach — Białostocczyźnie polskość jest kwestionowana? (...) Obecnie nie tylko tereny polskie zabrane w 1939 r., ale i Białostocczyznę niektórzy chcieliby wcielić do Białorusi. Te apetyty na nasze ziemie niektórych przywódców białoruskich, popieranych przez część duchowieństwa prawosławnego, zaczynają psuć dobre stosunki między naszymi narodami.*

*(Kurier Poranny, nr 233)*

**Шызафрэнія — гэта хвароба, перад якой медыцына бязрадная.**

* * *

*Gdańscy Niemcy są w szczęśliwej sytuacji, w porównaniu z innymi mniejszościami. Dotacje z Konsulatu Niemiec pokrywają 60-70% czynszów. Tragiczna jest sytuacja gdańskich Białorusinów i Ukraińców, którzy jeszcze do niedawna zajmowali pomieszczenia w bardzo dobrym punkcie przy Długim Targu. Trzy lata temu właściciel lokalu Państwowe Zakłady Zbożowe podniósł stawki czynszu, których nie byli w stanie spłacić dotychczasowi lokatorzy. Białorusini pozwolili się wyeksmitować. Ukraińcy ciągle zagrożeni są eksmisją.*

*(Gazeta Morska, nr 275)*

**У Гданьску таксама ёсць беларускае консульства.**

* * *

*Głoszona przez Polaków misja cywilizacyjna na Wschodzie była po prostu imperializmem, który w XIX wieku starł się z drugim imperializmem — rosyjskim* — **гэта думка французскага гісторыка Данііеля Бовуа.**

*(Polityka, nr 49)*

**Даніель Бовуа першы дакапаўся да царскіх дакументаў, схаваных у савецкіх архівах. Паводле вынікаў ягоных даследаванняў тое, што было напісанае польскімі ці савецкімі гісторыкамі пра гісторыю Беларусі і Украіны ў XIX стагоддзі, не мае нічога супольнага з рэчаіснасцю тае эпохі.**

* * *

***Адзін з камуністычных дэпутатаў (гэта ў парламенце Беларусі — рэд.) прызнаўся ў кулуарах: „Усе разумеюць, што Кебіч не той чалавек, які здольны сёння кіраваць. Але адпраўляць яго ў адстаўку надта рызыкоўна, бо гэта будзе першым рэальным крокам набліжэння Апазіцыі да ўрада".***

***(Свабода, н-р 13)***

**Гэта не жарты, Пазьняк пры ўладзе. Беларускім наменклатуршчыкам давядзецца тады вучыцца пісаць і чытаць на гэтай „праклятай мужыцкай мове". Нет, товарищи, это невозможно!**

* * *

*1 stycznia 1994 r za brak banderoli na wódce, benzynie lub papierosach sprzedającemu grozić będzie trzy lata więzienia lub 50 milionów grzywny.*

*(Gazeta Współczesna, nr 235)*

**Гэта вялікая кара; цікава ці наш каньяк „самжэнэ" трэба будзе таксама апячатаць?**

* * *

***З надыходам марозаў жыхары Парычаў (Гомельская вобласць) вырашылі паклапаціцца пра свайго таварышча Леніна, які стаіць на цэнтральным пляцы гэтага мястэчка. Невядомы добразычлівец накінуў на ненакрытую галаву Ільіча скураную фуражку з чырвонай зоркаю. Аднак мясцовае начальства палічыла гэткія клопаты залішнімі і дало згоду зняць куптурок.***

***(Свабода, н-р 13)***

**Відаць, сярод гэтага начальства скрываюцца нейкія жорсткія контррэвалюцыянеры. Нават у Беларусі штосьці такое можа здарыцца.**

* * *

*Poseł Arkuszewski (UD) zaproponował, żeby VAT-em obłożyć wróżki i prostytutki. Ten wniosek upadł.*

*(Gazeta Współczesna, nr 236)*

**Добра, што сярод паслоў ёсць яшчэ сапраўдныя мужчыны.**

* * *

*Twoje piersi są atrybutem kobiecości i Twoim wielkim atutem. Dzisiaj dzięki Bust Plus możesz mieć duży i jędrny biust. Mleczko Bust Plus uczyni w ciągu 2 tygodni Twoje piersi jędrne i seksowne.*

*(Dodatek TV Gazety Współczesnej, nr 48)*

**Бачым ужо маладых, прыгожых дзяўчат у чэргах за малачком „Bust Plus". А вясною... уяўляеце спадары такія грудзі!!!**

* * *

*Szwedzki grzech nie krył się w burdelach i nie miał oblicza zdeprawowanego, zniekształconego przez syfilis. Kojarzono go z młodą, świeżą i naturalną dziewczyną, która bez specjalnego skrępowania odbywa stosunek ze swoim chłopcem, wyposażona w środki antykoncepcyjne i świadoma, że akceptujące to zachowanie społeczeństwo przyjdzie jej z pomocą w przypadku przykrych konsekwencji. Dziś łatwiej jest w Szwecji wygrać milion na loterii niż zarazić się wirusem HIV.*

*(Polityka, nr 45)*

* * *

*Paradoks polskiej historii współczesnej: polski generał szlacheckiego pochodzenia reprezentował schodzącą ze sceny władzę robotniczo-chłopską, zaś przywódca robotników wymuszał powrót do kapitalizmu.*

*(Polityka, nr 49)*

* * *

*Mniej informacji, więcej cenzury* **дамагаецца ўрад.**

*(Rzeczpospolita, nr 282)*

**У гэтай справе ўрад можа падабацца шмат каму з беларускіх дзеячоў. Цэнзуравання „Нівы" дамагаліся яны ўжо раней, чым хтосьці з дзяржаўных урaднікаў пра гэта падумаў. Авангардыстаў у нас ніколі не бракавала.**

## З мінулага тыдня

**У выбарах у расейскі парламент і ў канстытуцыйным рэферэндуме прыняло ўдзел 53 прац. упаўнаважаных да галасавання.** За прыняццё новай канстытуцыі прагаласавала 60 працэнтаў выбаршчыкаў і гэтага дастаткова, каб увесці яе ў жыццё. У парламенцкіх выбарах перамагла **Ліберальна-дэмакратычная партыя Расеі Уладзіміра Жырыноўскага** (24,8% галасоў). На другім месцы апынуўся падтрымоўваны Б. Ельцыным „Выбар Расеі" (14%), а на трэцім — Камуністычная партыя Генадзя Зюганава (12%). Нечаканым быў поспех блока „Жанчыны Расеі", які атрымаў каля 10% галасоў. Пяціпрацэнтны ліміт галасоў перасягнулі і здабылі месцы ў парламенце восем партый, між іншым калгасная Аграрная партыя і дэмакраты, узначальваемыя Яўлінскім, Болдаравым і Лукіным.

**Ліберальна-дэмакратычная партыя Расеі** — папулісцкая нацыяналістычная групоўка, якая выказваецца за аднаўленне Расеі ў межах расейскай імперыі. У галіне гаспадаркі настойвае на ўласную ваенную прамысловасць, намерваецца пакінуць дзяржаўнымі вялікія прадпрыемствы, спыніць дапамогу былым савецкім рэспублікам, выказваецца за змешаную уласнасць на зямлю. Замежная палітыка — гэта перш за ўсё антыамерыканізм, вялікадзяржаўная палітыка сілы ў дачыненні да былых савецкіх рэспублік і краін Усходняй і Сярэдняй Еўропы, развіццё адносін з Турцыяй, Іранам, Кітаем і Індыяй. Лідэр партыі — **Уладзімір Жырыноўскі** — у сваіх кніжках піша аб праве Нямеччыны на Усходнюю Прусію і заходнюю тэрыторыю Польшчы, аб маршы Чырвонай Арміі на Індыйскі акіян, аб стварэнні замест аўтанамічных рэспублік 40-50 губерняў.

**Паслявыбарчую сітуацыю ў Расеі** палітычныя аглядальнікі ў Лондане акрэсліваюць „трывожнай". Адначасна ў друку і ў колах экспертаў пачалася дыскусія над кшталтам заходняй палітыкі ў адносінах да Расеі. Пераважае перакананне, што трэба ісці шляхам згоды. Многія эксперты лічаць, што няма нагоды ўшчыняць паніку, бо спатрэбіцца многа часу, пакуль расейцы будуць магчы адбудаваць колішнюю мілітарную пагрозу. У справе прыняцця Польшчы да НАТО утрымоўваюцца процістаўныя меркаванні. На думку некаторых экспертаў, менавіта цяпер далучэнне да НАТО такіх краін як Польшча з'яўляецца больш абгрунтаваным.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** ў інтэрв'ю амерыканскай тэлекампаніі CBS сказаў, што адзіным спосабам адыходу ад канфрантацыйнага падзелу ў свеце з'яўляецца паступовае далучэнне краін Усходняй Еўропы да захаду. „Нельга таксама дазволіць, каб нехта быў жандарам Еўропы ці свету", — дабавіў Прэзідэнт. На пытанне, каго мае ён на думцы, гаворачы аб „жандары свету", Прэзідэнт сказаў: „Вядома, перш за ўсё Расею і неадказных палітыкаў Расеі, якія прабуюць шантажыраваць і НАТО, і свет".

**У Беластоку закончыўся II Дэкламатарскі конкурс для палякаў у Літве, Беларусі і Украіне „Крэсы-93".** Агляд дэкламатараў праводзіўся ў зале школьнага тэатра Лялечнага факультэта, а падрыхтаавалі яго Падляскае аддзяленне Таварыства „Wspólnota Polska", Таварыства тэатральнай культуры і Ваяводскі асяродак анімацыі культуры. Пераможцам конкурсу стала Альжбета Мікульская з Літвы, якая чытала баладу Адама Міцкевіча „Пані Твардоўская".

**Ян Смык** стаў пераможцам у найбольш прэстыжным радыёконкурсе „Польшча і Свет'1993". Першую ўзнагароду атрымаў ён за перадачу „Святога Гаўрыіла смерць дзеля жыцця", якая мае шанц прымаць удзел у найбольш прэстыжным для радыёжурналістаў конкурсе „Prix Italia" з увагі на яе мастацкую арыгінальнасць і тэхнічную перфектыўнасць.

**Беластоцкія пажарнікі** атрымалі ў дары ад сваіх калег з галандскага горада Эйндхавен дзве пажарныя аўтамашыны з навейшым абсталяваннем. Беласток і Эйндхавен супрацоўнічаюць ужо тры гады.

**16 снежня г.г. нашу рэдакцыю наведала урадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь** у складзе: **Анатоль Бутэвіч** — міністр інфармацыі, **Уладзімір Гілеп** — выконваючы абавязкі міністра культуры, **Наталля Голубева** — прадстаўнік Саўміна, **Уладзімір Сянько** — пасол РБ у Польшчы, **Ігар Хадасевіч** — віцэ-консул і **Мечыслаў Часноўскі** — саветнік пасольства. Госці цікавіліся працай рэдакцыі "Нівы" і праблемамі беларусаў Беласточчыны.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



# ВЕСТКІ З МЕНСКА

### МЕНСКІЯ ГАНДЛЯРЫ СУПРАЦЬ РУБЛЁВАЙ ЗОНЫ

Рашэнне беларускага ўрада аб уступленні Беларусі ў гэтак званую "рублёвую зону новага тыпу" выклікала неадназначную рэакцыю насельніцтва, перш за ўсё прафесійных гандляроў, якія, змяніўшы арыентацыю, апошнім часам аддаюць перавагу не варшаўскім ды беластоцкім рынкам, а торжышчам Масквы ды Разані. Прычына простая — розніца курсаў беларускага і расейскага рублёў /1 расейскі за 3 беларускіх/. Купляючы ў Менску ці Баранавічах смятану ці тварог за беларускія грошы, гандляры прадаюць гэты тавар у Расеі за тую ж суму, але ўжо ў расейскіх рублях; такім чынам чысты заробак складае 200 працэнтаў. Натуральна, з уваходжаннем Беларусі ў рублёвую зону гэты бізнес знікне...

### ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПАЧЫНАЕЦЦА З НАВАПОЛАЦКА

Першы ў Беларусі аўкцыён па продажу муніцыпальнай маёмасці адбыўся, як вядома, у Брэсці. Эстафету прыняў Наваполацк: рашэннем гарадскіх уладаў там было прададзена з аўкцыёну некалькі ўстаноў грамадскага харчавання, майстэрняў ды іншых аб'ектаў, зручных для выкарыстоўвання ў малым бізнесе. У выніку муніцыпальная каса папоўнілася сумай у паўміліярда рублёў.

### СКАНДАЛ У БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ

Апошнім часам беларускае тэлебачанне паднялося ў рэйтынгу папулярнасці вышэй за „Астанкіна" і Расейскі канал з улюбёнымі фільмам хатніх гаспадынь „Твін Пікс", „Салодкі ручай", „Проста Марыя" (аналагі „Дынасты" і „Пакалення"). Прычына такой папулярнасці, як то ні дзіўна — чарговая Сесія Вярхоўнага Савета. Ужо некалькі вечароў запар беларуская грамадзяне з надзвычайнай цікаўнасцю назіраюць за баталіямі, якія разгортваюцца ў зале Вярхоўнага Савета вакол прамовы галоўнага барацьбіта з карупцыяй Ул. Лукашэнкі. Сярод абвінавачаных у выкарыстоўванні службовага становішча ў сваекарысных мэтах — спікер парламента С. Шушкевіч, Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч, Старшыня ТБМ, народны дэпутат Н. Гілевіч, а таксама асобы на пасадзе з Нацыянальнага Банка, Пракуратуры ды некаторых міністэрстваў. На мінулым паседжанні стала вядома, што ў выніку разаблачэнняў спікер, не вытрымаўшы, трапіў у шпіталь. Калі справы будуць разгортвацца гэтак жа сама і надалей, можа стацца, што на шпітальным ложку неўзабаве апынецца большая частка беларускіх дэпутатаў...

### ВОСЬ ПРЫЕДЗЕ КЛІНТАН, КЛІНТАН НАМ ПАМОЖА...

Як стала вядома з дыпламатычных крыніцаў, візіт амерыканскага Прэзідэнта Біла Клінтана запланаваны ў Менск на 16 студзеня. Візіт амерыканскага Прэзідэнта адбудзецца пасля наведвання Масквы.

Чакаецца, што сярод пытанняў, якія будуць абмяркоўвацца падчас візіту — пашырэнне аказання Беларусі дапамогі паводле закона Нана-Лугара, стварэнне спецыяльнага фонду падтрымкі прыватнага бізнесу ў Беларусі, пытанні ўдасканальвання прававых дачыненняў паміж дзвюма дзяржавамі. Чакаецца, што будзе падпісаны шэраг узаемных дакументаў, сярод каторых — пагадненне аб абароне ўзаемных інвестыцыяў і аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання.

### МАФІЁЗНЫЯ РАЗБОРКІ НА ВУЛІЦАХ ГОМЕЛЯ

Сапраўдны сюжэт амерыканскага баевіка разыграўся на вуліцах другога па колькасці насельніцтва горада Беларусі. Да „мерседэса", што пад'ехаў да аднаго з рэстаранаў, падбег невядомы чалавек з пісталетам і, зрабіўшы некалькі стрэлаў, кінуўся наўцёкі. Міліцыянт, што стаяў побач з рэстаранам, пачаў страляць у адказ. У выніку застрэлены два міліцыянты і невядомы злачынца. Па звестках, што заслугоўваюць даверу, уладальнік „мерседэса" з'яўляецца адным з лідэраў мясцовага рэкету. Пакуль што падобныя гангстэрскія сцэны на вуліцах беларускіх гарадоў яшчэ рэдкія, у адрозненне, напрыклад, ад Санкт-Пецярбурга, дзе яны разгортваюцца хіба кожны дзень...

Падрыхтаваў
**УЛАДЗІМІР КВЯТКОВІЧ**

# ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Пры нагодзе паездкі ў Гайнаўку вырашаю наведаць блізкую мне вёсачку. Ужо ў аўтобусе сустракаю знаёмых людзей, іх мову і праблемы. Жанчыны наракаюць на здароўе, мужчыны гутараць аб грошах і беспрацоўі. Усім тут жывецца цяжка і безнадзейна. Выходжу на прыпынку ў Ласінцы. Перада мной тры кіламетры маршруту па абледзянелай шашы і пры брэху ласінскіх нахабных сабак. Мой візіт не выклікае здзіўлення.

— Я і так прадчувала, што прыедзеш, — кажа маці, а суседка Нінка дадае:

— Бо ты мне сёння снілася.

### ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

Вёска Катлоўка ляжыць у катліне. Адтуль і мовазнаўцы выводзяць назву вёскі. У народзе жыве больш яскравая версія. Па адным баку цягнуцца балоты, якія называюць тут „Сажоўка". Восенню і вясной на брукаванай вуліцы і панадворках залягае балота. Да сённяшніх дзён жыхарам не давялося вырашыць гэтую праблему. Без гумовых ботаў тут нельга.

— Так заўсёды тут было. — паўтараюць катлаўляне.

### ГАСПАДАРКА

У вёсцы 26 сем'яў. Яшчэ 12 гаспадароў займаецца земляробствам, астатнія, — пенсіянеры і беспрацоўныя. Сеюць тут жыта, авёс, пшаніцу, ячмень, лён. У 70-х гадах панавала мода вырошчваць тытунь, на якім добра зараблялася. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца бульба. З жывёл гадуюць тут свіней, кароў, авечак, коней. Гаспадаркі тут, аднак, сціплыя. Гаспадары працавітыя, але на малой гаспадарцы нельга разжыцца.

— Няма магчымасці. Калісь яшчэ тоесёе будавалася, а цяпер нічога не зробіш, — гавораць вяскоўцы.

Маладыя людзі хацелі гаспадарыць па-сучаснаму. На жаль, давялося ім утапіца ў працэнтах ад крэдытаў.

### МАГНІТНАЯ АНАМАЛІЯ

У 70-я гады ў лесе, што за вёскай, вяліся геалагічныя даследаванні. Знайшлі тут залежы жалезнай руды і ўрану. Выступае тут вельмі цікавая і рэдкая з'ява магнітных анамалій. Не раз давялося мне пачуць ад мясцовых людзей, як іх вадзіла па „загаях", па „забалоцкіх лугах", „бэрэзаўцы". Жахлівым і небяспечным уяўляецца лясное „кострыно", дзе „траціцца розум і лёгка загінуць". Што тут здзіўляцца? Нават перапалоханыя геолагі ўцякалі з лесу, бо не „адно там пабачылі і перажылі".

Вёска багатая таксама вадзянымі жыламі. Усе старэйшыя людзі наракаюць, што ломіць ім рукі і ногі. І як тут марыць аб лепшай будучыні?

### РЭЛІГІЯ І ФАЛЬКЛОР

Жыхары Катлоўкі ўсе праваслаўнага веравызнання. Вёска належыць да ласінскага прыхода. Царкву наведваюць найчасцей жанчыны. Людзі шануюць рэлігію і царкву, а святар мае вялікі аўтарытэт. Усе хрысцяць дзяцей і вянчаюцца, не ўяўляюць, што можа быць інакш. Духовы свет мае тут яшчэ адзін абсяг. Вусная народная творчасць „цвіце і красуе". На штодзень катлоўцы карыстаюцца цікавымі прымаўкамі і метафарамі. Калі нехта гаворыць пра кагось, што „злапаў пэрэпеліцу" значыць гэта — напіўся, а калі сцвярджаюць „ужэ готовы" — дык напіўся да скону. Катлаўляне цікавяцца магічнымі практыкамі. Спецыялісты таемнага тут у трывожнай пашане. Але найбольшай папулярнасцю карыстаецца песня. Кожнае вяселле, гасціна ці свята ажыўляецца сваімі песнямі. Маладыя людзі ведаюць „Дубіноў" і „Грамаду". Самы таленавіты ў вёсцы — Генік Іванюк, які мае прыгожы голас і ўмее карыстацца музычнымі інструментамі. Генік іграе на гітары, гармоніку, аргане. На жаль, яго талент невядомы па-за абсягамі вёскі. Людзі ўмеюць тут жартаваць.

— А што там за абы х...у крыўдзіцца, — кажа адзін хлопец.

### ІМЁНЫ І ПРОЗВІШЧЫ

У вёсцы пераважаюць жанчыны старэйшага ўзросту. Найпапулярнейшыя імёны гэта: Марыся, Ганна, Валя, Люба, Наталля, Ніна, Вера. Мужчыны называюцца тут: Іванамі, Колямі, Сярожкамі, Мішамі. Сярод дзяцей паявіліся Івонкі, Манікі, Бэаты і Агнешкі.

У вёсцы рэдка каго называюць па прозвішчу. Калі гаворыцца пра суседа, то дадаецца чый ён, а пераважна гэта імёны слаўных продкаў, напр.: Пархвенкавы, Ягуштыновы, Дамінчыны, Малашчыны ці Герасімовы. Памятаю, што нейкі дзядзька з Тыневіч пытаўся, чыя я. Сказаць што тая і сякая было сорамна і я акружным дарогай сказала прозвішча. Дзядзька не мог аніяк здагадацца. Тады трэба было сказаць праўду.

— Ты і змахуеш на іх, — сказаў вясёла дзядзька і пачаў успамінаць маю цёцю.

### СОЛТЫС ВЁСКІ

Ян Назрук — старанны і клапатлівы солтыс. Колькі разоў да яго я не заходзіла, заўсёды пабыву ў гміне ці па людзях, дзе афармляў вясковыя справы. Ён не толькі добры солтыс, але і шчыры беларус. Ён чытае „Ніву" і „Часопіс". Не раз давялося мне сустрэцца з солтысам пры чарцы, і тады ён прапанаваў магутны тост:

— За здароўе і свабоду беларусаў!

### КАТЛОЎСКІ РАГАЛЬ

Людзі тут дружныя, памагаюць адны адным. Калі ў каго малацьба ці іншая цяжкая праца, тады памагаюць сабе талакой, дарма. Але найпрыгажэйшае тое, што ў бядзе заўсёды памагаецца слабейшаму. Цэніцца тут таксама сяброўства. Нудныя вечары і лянівыя святы ўзбагачаюцца „вінoм і спевамі". Папулярнасцю карыстаюцца ўсе спіртныя напіткі, радавітая „Niezła" і савецкі „Раял". Той апошні зрабіў тут такую кар'еру, што перахрысцілі яго па-свойму, на „рагаля".

„Гэтыя справы" то шматгадовая традыцыя. Але жыць на магнітных анамаліях і вадзяных жылах не простая справа.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

P.S. Усе жыхары вёскі прасілі, каб іх не „абшмараваць".



*Бабка Наталля і Марыся з Катлоўкі.*




### НЯБЕСНЫЯ ХМАРЫ

Над зямлёю, над вадою
Ходзяць хмары чарадою,
Ходзяць высока і нізка
І далёка ходзяць, блізка.

Часам сунуцца гарою,
Засланяюць свет сцяною,
Станеш нават на пагорак —
Не убачыш сонца, зорак.

А малыя хмаркі вольна
Плывуць ціха і спакойна,
Маюць колеры адценняў
Ў бляску сонечных праменняў.

А бываюць цёмна-шэры,
Вось тады няма ім веры,
Льецца з неба вады мора, —
На зямлі бяда і гора.

Хмарам кампануюць буры,
Яны грознае натуры,
Вецер ломіць, вырывае,
А маланка б'е, страляе,

Нарабіўшы страху, шкоды,
Падчас летняй непагоды.
Людзі кажуць: чыя віна, —
Мабыць, Ільі, мо Перуна?

*Лондан, 1993 г.*
**Ю. В-СКІ**

### МАЁ МЕРКАВАННЕ НА ЗІМУ

Холадна на двары.
А да якой пары
Мароз будзе трашчаць,
У мазгаўніцы мяшаць?
Вось толькі падумаць,
З марозам „пакумаць":
Няхай менш трывожыць,
Да бяды не даводзіць,
Бо ёсць ужо ахвяры:
Памерзлі, як ад гары;
Адны — каля „стрэлкі",
Другія — з гарэлкі.
З марозам — не жарты.
Не йграць гэта ў карты,
Калі месяц марозны
І з ветрам нязносным.
А гэта ж пачатак,
Будзе снег-дадатак,
Будуць гурбы снегу
Для дзяцей, для смеху.
„Кумаваць" з марозам —
Развітанне з возам,
Санкі выцягаць,
Кажух апранаць.
І я бядую,
І ўсё мяркую:
Як мне „Ніву" разносіць,
Калі дарогі снег заносіць?!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ПЕНСІЯНЕРЫ АБ СВАІХ ПРАБЛЕМАХ

Беластоцкая ваяводская арганізацыя Саюза пенсіянераў і інвалідаў налічвае 31 тысячу чалавек, аб'ядманых у 127 гуртках. Найбольш актыўна дзейнічаюць гурткі ў Чаромсе, Харошчы, Кляшчэлях, Нарве, Крынках і Сухаволі, а таксама гурткі н-р 1, 9, 12, 14 і 48 у Беластоку.

Саюз пенсіянераў дапамагае сваім членам фінансава і апрача таго вядзе культурна-асветную і кампанейска-забаўляльную дзейнасць. Зараз пенсіянеры даволі-такі збяднелі. Нават пры скупаватым харчаванні многім не стае пенсіі, каб неяк пражыць месяц. Калі ў гадах 1989-1991 з фінансавай дапамогі Саюза карыстала 90 збяднелых людзей, дык сёлета — 235.

Пад эгідай Саюза працуюць мастацкія калектывы, пераважна песенныя: „Крынічанкі" ў Крынках (вядзе яго Уладзіслава Яновіч), „Чарнаўянкі" ў Чорнай-Беластоцкай (яго дырыжорам з'яўляецца Уладзіслаў Андрукевіч), „Рэха" ў Сухаволі (пад кіраўніцтвам Чэслава Карпені) ды песенныя ансамблі пры гуртках н-р 3 і 14 у Беластоку. „Крынічанкі" выступалі з канцэртамі ў Бераставіцы на Гродзеншчыне. „Чарнавянкі" ездзілі спяваць у сталіцу Беларусі — Менск.

25 лістапада гэтага года ў Беластоку адбыўся Ваяводскі з'езд пенсіянераў, у якім удзельнічалі 54 дэлегаты. Падчас дыскусіі прамоўцы падавалі прыклады збяднення пенсіянераў, неадпаведнага абыходжання з імі, калі даводзіцца ім карыстацца аўтобусамі гарадской камунікацыі або аўтобусамі ПКС, а таксама ў адміністрацыйных установах, у чэргах да касавых акенцаў ПКО або на поштах. У шматлікіх выпадках інтэрвеніравалі прадстаўнікі Ваяводскага праўлення Саюза і калі-нікалі ўдавалася ім нешта выправіць. Дыскутанты крытычна адносліся да факту, што ўжо неўзабаве лекарскія камісіі не будуць прызнаваць інвалідскіх групаў сялянам, а толькі сцвярджаць іх працаздольнасць. Шмат часу прамоўцы прысвяцілі справам назначэння рэнтаў і пенсіяў.

Заслужаныя дзеячы Саюза пенсіянераў і інвалідаў былі ўзнагароджаны залатымі пачэснымі адзнакамі. Затым адбыліся выбары ваяводскіх улад Саюза пенсіянераў. Функцыю старшыні даверылі Уладзіміру Корху.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# З МАЙГО ПАНАДВОРКА

Пахадзіўшы ў суботні марозны дзень па вуліцах Міхалова, змерз я, быццам сабака, і задумаў пагрэцца. Пра гарачы чай ці каву можна толькі памарыць. Хутчэй вып'еш сто грам у кіёску пад свой бутэрброд, бо прыкусіць — туга. Калісь быў рэстаран, цяпер няма. Накіраваўся я ў краму, што ў „таваровым доме". Калісь там было цёпла. А цяпер! Прадаўцы, быццам эскімосы, у паліто, шапках і рукавіцах. Вось я і нагрэўся! Адна прадаўшчыца параіла мне купіць бутэльку гарэлкі. А чым закусіць? — маразілкі пустыя, бо няма электратоку. Цэнтральнае абаграванне не працуе, бо ў кацельні няма вугля. Няма грошай, каб абагрэць і асвятліць адзін з найпрыгажэйшых будынкаў у Міхалове. Закрылі краму па вул. Беластоцкай; ГС банкрутуе. Гэтаму няма чаго дзівавацца, калі ў таргговы дзень, у сераду, на рынку ў Міхалове поўна рускіх гандляроў, якія свой тавар прадаюць за паўцаны.

Чытаючы „Ніву", чалавек даведваецца, што ў іншых гмінах ёсць у вёсках водаправоды; а ці ў Міхалоўскай гміне хаця адна вёска мае водапровод? Не. Чаму ў Міхалоўскай школе не вучаць беларускую мову: ці няма настаўнікаў, ці дзеці не хочуць вывучаць родную мову?

Выбачайце, што я так накрамзоліў змерзлымі рукамі, што вы там, у рэдакцыі, пэўна без пляшкі не разбярэцеся. Ды і я хутчэй пабягу на рынак да рускіх турыстаў па гарэлку — у іх таннейшая, бо наша зноў падаражэла. Вось мой сусед прынёс шэсць бутэлек спірту па 80 тысяч за бутэльку. Дзеці ў яго босыя, затое яму будзе цяпер цёпла!

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

# СЕМІНАР АБ ПАГРАНІЧЧЫ

1 снежня 1992 года ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку адбылася першая сустрэча ў рамках адкрытага семінара „Пагранічча. Сацыялагічныя даследаванні". Даклад на тэму „Перамены канфесійнай і этнічнай структуры жыхароў Рэспублікі Беларусь у 1970-1993 гадах" зачытаў праф. Спартак Польскій — загадчык лабараторыі этнічнай геаграфіі Педагагічнага інстытута ў Менску. З уводным словам выступіў праф. Андрэй Садоўскі — ініцыятар семінара. А вось праблемы, якія ставіліся на сустрэчы.

Па навейшых даных беларусы ў Рэспубліцы Беларусь складаюць 78% ад усяго насельніцтва, расейцы — 13%, палякі — 4%, украінцы — 3%, іншыя — 2%. Перапіс ад 1989 г. даказаў існаванне ў рэспубліцы прадстаўнікоў 128 нацыянальнасцей. Беларусь становіцца свайго роду інтэрнацыянальнай рэспублікай — прадстаўнікі іншых нацый не пакідаюць яе, але наадварот, пасяляюцца ў ёй. Прыклад гэтаму — некалькі тысяч азербайджанскіх вёсак, якія паўсталі ў чарнобыльскай зоне ў выніку пасялення тут азербайджанцаў — бежанцаў з ахопленай вайною радзімы.

Расейская нацыянальная меншасць апынулася цяпер у самай кепскай псіхалагічнай сітуацыі. Радыкальныя групоўкі вядуць супроць ёй і камуністаў інтэнсіўную кампанію, спалучаючы гэтыя два паняцці ў адно, што, аднак, не мае адлюстравання ў рэчаіснасці. Выклікае гэта заадно нестабільную сітуацыю ва ўсходняй Беларусі, населенай у значнай ступені расейцамі. Паводле перапісу ад 1897 года на беларускай тэрыторыі жыло толькі 3,8% расейцаў. Наплыў пачаўся ў пачатку XX стагоддзя (разам з наплывам капіталу і развіццём прамысловасці), а асабліва разгарнуўся пасля II сусветнай вайны, калі ў вынішчаную Беларусь прыязджалі тэхнічна-інжынерскія і іншыя кадры разам з сем'ямі. І хаця працэс русіфікацыі існаваў здаўна, дык нельга яго ацэньваць адназначна таму, што расейцы прычыніліся таксама да развіцця Беларусі. Цяпер расейскай мовай карыстаецца каля 30% жыхароў рэспублікі. Праблему ствараюць нацыянальна мешаныя сужонствы (іх 24%). Яшчэ на пераломе 1980/1990-х гадоў дзяцей з беларуска-расейскіх сужонстваў запісвалі расейцамі. Цяпер сітуацыя мяняецца ў лепшы бок, хаця асабліва ў гарадах застаецца ў далейшым балючай справай.

Тэрытарыяльныя праблемы галоўным чынам выступаюць на беларуска-літоўскім пагранічы і маюць характар двухбаковых прэтэнзій. Апошнім часам аднавіліся яны пасля заявы Згуртавання беларускіх вайскоўцаў, якое патрабуе вярнуць Вільню і г.зв. Віленскі край. Прычынай гэтых прэтэнзій мела быць дамова беларускага і літоўскага ўрадаў наконт беларускіх санаторыяў у Друзгенніках і адной чыгуначнай станцыі. У выніку заключанага пагаднення Беларусь магла б карыстацца санаторыямі яшчэ сто гадоў, а пагранічная чыгуначная станцыя была б аддадзена Літве на вечнае карыстанне. Вядома, такія тэрытарыяльныя прэтэнзіі ў сённяшняй сітуацыі — справа небяспечная. Нейкая праблема выступае і на беларуска-украінскім пагранічы, канкрэтна на Палессі, дзе жыве каля 290 тысяч украінцаў. Лічаць яны сябе чацвёртым этнасам — славянска-яцвяжскім — і патрабуюць аўтаноміі або далучэння да Украіны. Культурную аўтаномію магчыма можна было б ім даць, але гэта магло б выклікаць ланцуговую рэакцыю. Пакненні палескіх сепаратыстаў у галіне культуры і асветы падтрымоўвае Валынь. У сапраўднасці ў насельніцтва Палесся такая свядомасць намнога меншая і не так паўсюдная, як гэта прадстаўляюць лідэры Згуртавання „Полісье". Трэба дабавіць, што гэты канфлікт, а хутчэй беларуска-украінская праблема, намнога больш лагодны, чым беларуска-літоўскі. Абагульняючы нацыянальнае пытанне, праф. Польскій адзначыў, што нягледзячы на названыя спрэчныя праблемы, Беларусь — практычна адзіная рэспубліка былога СССР, у якой няма адкрытых нацыянальных канфліктаў.

Другая частка сустрэчы была прысвечана канфесійнай сітуацыі ў Беларусі. Паводле анкеты, праведзенай па прынцыпах Галупа ўлетку 1992 года, вынікае, што там 72,2% праваслаўных, рымскіх католікаў — 6%, уніятаў — 1,1%, пратэстантаў — 1,1%, яўрэяў — 0,2%. Іншыя канфесіі разам з атэістамі (а дакладней, атэісты з іншымі рэлігійнымі групоўкамі) складаюць 19,4% насельніцтва. На працягу апошніх некалькіх гадоў лік „веравызнанняў" павялічыўся з дзевяці на дваццаць, але палова з іх — гэта розныя секты, нярэдка экзатычныя. Цяпер вельмі цяжка вызначыць дакладны лік вернікаў. Паводле праф. Польскага, сітуацыя ў паасобных канфесіях прадстаўляецца наступным чынам:

ПРАВАСЛАЎЕ. Афіцыйна налічвае яно каля 7 мільёнаў вернікаў, аднак гэты лік прызнае ён перабольшаным. Сваё меркаванне абаснаваў ён на выніках анкеты ў Расеі, дзе за рэгулярнае наведванне царквы выказаліся 9—12% рэспандэнтаў. На гэтай падставе, памойму, нельга нічога сцвярджаць, тым больш, што частотнасць наведвання храма не з'яўляецца адзіным фактарам прыналежнасці да веравызнання, асабліва ў такой атэізаванай рэспубліцы былога Саюза, як Беларусь. На працягу апошняга года колькасць епархій павялічылася з сямі да дзесяці. Выявілася таксама тэндэнцыя да развіцця Праваслаўя ва ўсходняй частцы Беларусі, якая была больш атэізаваная за заходнюю. Павольна, але сістэматычна пачынаецца працэс адраджэння беларускай свядомасці ў Праваслаўі. Патрабаванні хуткага пераходу на беларускую мову часта сацямняюцца эмоцыямі, і тады людзі забываюць, што літургічнай мовай з'яўляецца не расейская, але царкоўнаславянская мова. Праблема заключаецца ў тым, што бракуе кананічнай літаратуры на беларускай мове. Аднак і ў гэтай галіне наглядаецца прагрэс: выдадзена ўжо Евангелле ад Матфея, рыхтуецца да друку Евангелле ад Марка. У Менскай духоўнай семінарыі вучыцца 160 чалавек, а заняткі вядуцца і на беларускай мове.

РЫМСКІ КАТАЛІЦЫЗМ. Развіваецца надта дынамічна, асабліва ў Заходняй Беларусі. Анкета паказвае, што католікаў у Беларусі — 600 тысяч, затое Ватыкан і Польшча падаюць перабольшаныя лічбы 1,5—2 млн. Паводле арцыбіскупа Кандрусевіча ў Беларусі жыве 700—800 тысяч католікаў і гэты лік, магчыма, самы блізкі праўдзе. Праблему ствараюць ксяндзы з Польшчы, якія апрача рэлігійнай дзейнасці праводзяць паланізацыйную палітыку. Частка ксяндзоў (43 асобы) прыехала па запрашэнню былога маскоўскага Всесоюзного Совета по Делам Религии. Хаця некаторыя запрашэнні даўно ўжо страцілі сваю сапраўднасць, духоўнікі надалей працягваюць сваю дзейнасць. Іншыя прыехалі па прыватных запрашэннях і таксама засталіся ў парафіях. Праблема ксяндзоў з Польшчы і іх дзейнасць выклікае свайго роду напружанне, але польскі ўрад заяўляе, што ён не мае дачынення да гэтай справы, што ўсё вырашае Ватыкан. Цяпер урад Беларусі звярнуўся ў Ватыкан з просьбай накіроўваць туды ксяндзоў іншых нацыянальнасцяў, а не палякаў. Уніяты маюць 10 згуртаванняў і 4 святароў ды карыстаюцца часовымі памяшканнямі, прыстасаванымі да канфесійнай дзейнасці.

ПРАТЭСТАНТЫ. Гэтая канфесійная група развіваецца вельмі дынамічна. Дапамагае ім у гэтым замежная фінансавая падтрымка, асабліва з ЗША. Доказам іх добрай фінансавай сітуацыі з'яўляецца факт пабудовы толькі ў адным Менску двух малітоўных дамоў і прытулку для пажылых людзей. Найбольшыя пратэстанцкія абшчыны знаходзяцца ў паўднёва-заходняй частцы рэспублікі, а абумоўлена гэта гістарычнымі фактарамі, паколькі ў пачатку XX стагоддзя ў Брэсцкай вобласці жыло многа немцаў і эстонцаў пратэстанцкага веравызнання.

Па афіцыйных даных ад 1 мая 1993 г. у Беларусі існавала 1537 прыходаў і канфесійных абшчын, у тым ліку 795 праваслаўных, 310 рымска-каталіцкіх, 350 пратэстанцкіх (з гэтага 157 баптысцкіх).

Сустрэча была багатая інфармацыямі, аднак пакінула адчуванне нейкага незадавальнення. Асабліва датычыць гэта спосабу асвятлення нацыянальнага становішча ў рэспубліцы. У выказваннях праф. Спартака Польскага можна было заўважыць нейкі комплекс польскасці, а нават (можа неўсвядомлены) інтэрнацыяналізм. Са сказанага ім можна было меркаваць, што Беларусь павінна рабіць усё, каб не ўразіць суседзяў, нават цаной свайго гонару і годнасці. Гэта ж не злачынства — казаць праўду і паказваць на картах, што беларускае асадніцтва ў мінулым даходзіла да Кнышына, Багушэва ці Невадніцы, аб чым сведчаць цэрквы ў гэтых мясцовасцях, якія паўсталі там, адпаведна, у 1577, 1574, 1320 гадах (пісаў аб іх айцец Рыгор Сасна ў „Ніве" ад 24.04.1988 г., стар. 6—7).

На маю думку, на сустрэчы бракавала канкрэтнага каментарыя да прадстаўленых даных з перыяду 1970—1993 гадоў, якога датычыла тэма семінара.

Абагульняючы, лічу, што ідэя семінара — цікавая. Дае ён магчымасць паглыбіць веды аб пагранічы і выказаць свой пункт гледжання на праблемы характэрныя культурнаму памежжу.

**МІКАЛАЙ СЕМАКОВІЧ**

# ЦІ ВАРТА БЫЛО?

У хуткім часе грамадства Польшчы перажыло дзве важныя змены ўлады. Шчыра кажучы, з гэтых двух, сапраўды важнай была тая першая: афіцыйны канец камунізму, пераход да свабоднага рынку, прыватызацыі і гэтак званай „дэмакратыі". Таму „гэтак званай", што дагэтуль у Польшчы аб сапраўднай дэмакратыі не магло быць і гутаркі. Не паспелі сфармавацца стабільныя партыі з канкрэтнымі праграмамі, а грамадства галасавала інтуітыўна, паводле другарадных сімпатыяў... і гэтак далей.

На што спадзяваліся выбаршчыкі, галасуючы за былых камуністаў? На што разлічвалі? Толькі наіўныя маглі спадзявацца, што хутка наступяць істотныя змены. На маю думку, ніякай адчувальнай змены не будзе і вяртанне назад было дарэмным. Вядома, што расчараваўшыся жорсткімі правіламі капіталізму, людзі засумавалі прынамсі за папярэдняй нераскошнай, але ніштаватай ураўнілаўкай. У такіх жа ўмовах жылі амаль два пасляваенныя пакаленні, увесь час аблізваючыся на заходні рай, наракаючы і праклінаючы ўладу. Капіталізм быў запаветнай марай; ён атаясамляўся з дабрабытам, з якім шмат хто сутыкнуўся, папрацаваўшы падмятайлам або чорнарабочым на Захадзе. Ды вось прыйшоў той доўгачаканы капіталізм, ды нешта не такі як трэба. Што праўда, можна — як раіў прэзідэнт — браць справу ў свае рукі, засноўваць фірмы, гандляваць, толькі як будаваць капіталізм без капіталу? А грошай як не было, так і няма, і ніадкуль узяць іх, хоць ты са скуры вылезь. Цэны заходнія, а заробкі ўсходнія. Хто мог, кінуўся ў нейкі бізнес, пакуль яшчэ ён аплачваўся. Засталася, аднак, цэлая армія служачых, рабочых, настаўнікаў, студэнтаў, пенсіянераў і беспрацоўных, якія маглі разлічваць толькі на свае мізэрныя месячныя заробкі. З іх прычыны некаторыя не мелі нават часу і магчымасці пагандляваць на рынку з усходнімі „турыстамі". На вуліцах поўна рэкламаў і багатых крамаў, але пагпядзець на іх можна толькі праз акно. З'явіліся жабракі, якіх даўно ўжо ніхто не памятаў з часоў злашчаснай камуны, і то не толькі румыны. Адным словам, шмат хто ўцяміў, што замест лепш, зрабілася яшчэ горш.

І тут узнікае пытанне: а ці ж не гэтага самі хацелі? Сталася дакладна так, як у прымаўцы: „за што бароліся, на тое напароліся". Трэба было ўлічваць той горшы бок капіталізму, які са свае натуры прадугледжвае канкурэнцыю, індывідуалізм і няроўнасць. Асабліва недарэчна было за яго змагацца рабочым. Ён адназначны з беспрацоўем, якое не з'яўляецца праблемай у багатых краінах, бо іх бюджэты ў стане ўтрымаць беспрацоўных. Польшча, аднак, як жадаў былы набожны віцэ-прэм'ер Гарышэўскі, праўдападобна хутчэй будзе яшчэ больш каталіцкай, але напэўна не багацейшай. У такой сітуацыі грамадству, якое пераважна беднае, дарэмна спадзявацца, што новы ўрад падкіне ім нешта з бюджэту. Нашы беластоцкія сяляне, якія з маніякальнай упартасцю, бадай ужо другі раз галасавалі за „свайго" Валодзьку Цімашэвіча, таксама наіўна спадзяюцца, што ён загадае ўрэшце па лепшай цане купляць ад іх мяса і бульбу, але ж з пустога і „свой" Цімашэвіч не налье. З бюджэтам дакладна гэтак, як з кароткай коўдрай. Абяцаныя найбяднейшым у пачатку новага года 200 тысяч злотых новы ўрад дасць, але з чыста прапагандысцкіх меркаванняў. Іх вартасць у сувязі з інфляцыяй будзе роўная нулю. Інакш і не можа быць; у эканоміцы цудаў не бывае. Польшча ўжо не вернецца да камуністычнага кіравання ні ў палітыцы, ні ў гаспадарцы. На гэта не дазволяць ужо знешнія абставіны. У Польшчы „сапраўднага" камунізму ніколі не было, дык тым болей не будзе і цяпер. Сам „камунізм" гэта паняцце, слова, якога змест залежыць ад практыкі. У Расеі былі і ёсць сапраўдныя камуністы, але і яны цяпер гавораць: „Таварышы, усе сілы аддадзім дзеля пабудовы светлай будучыні капіталізму"...

З такой жа ўпэўненасцю можна сказаць, што пад новым кіраўніцтвам, ніякай істотнай змены не будзе і ў замежнай палітыцы. Будзе далей назойлівае стуканне ў дзверы НАТО і Еўрапейскай Супольнасці ды падлізванне да заходніх банкаў. Захад не хутка прыме Польшчу ў сваю кампанію, бо прыклад усходняй Нямеччыны ўсвядоміў, колькі каштуе, каб фурманку зрабіць падобнай да мерседэса. Ніхто не захоча, каб таннейшыя тавары і працоўная сіла з Усходу павялічылі шэрагі тамашніх беспрацоўных. Тое самае тычыцца і НАТО. Калі на дыпламатычнай арэне апошнім часам загаварылі пра „партнёрства і супрацоўніцтва", дык гэта азначае, што прыняць Польшчу ў свой саюз не хочуць. Справа не толькі ў фармальным супраціве Расеі, з якой адзінай яшчэ лічацца і якога нармальна магло б быць дастаткова. З бедным і слабым заўсёды толькі клопат. Не зважаючы на ўсе дэкларацыі, гэтага клопату ў любой галіне, і ваеннай, і гаспадарчай, ніхто не хоча на сябе браць.

Дык ці варта было галасаваць за такія змены?

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ПАДАРОЖЖА Ў ПАСЫНКІ

Працяг са стар. 1

У Пасынках драўляная царква (напамінае цэрквы ў Ласінцы і Нарве) і капліча на могілках, што за вёскай. У парафіі 8 вёсак. У царкву людзі яшчэ прыходзяць. Але ад прыезду спадароў Сурэляў у Пасынкі ахрысцілі толькі трое дзетак.

## У магазіне

сёння рух, прывезлі рыбу. Магазін належыць ГСу. Прадаюцца тут прадуктовыя і прамысловыя тавары. „Інтарэсы ідуць добра", — кажа прадаўшчыца. Яна таксама даязджае з Бельска, але гаворыць на палескім дыялекце. „Ніву" чытаю, бо дачка прыносіць са школы", — заяўляе прадаўшчыца.

Па магазіне швэндаюцца і такія, што напэўна не прыйшлі за рыбай. Хачу ім зрабіць здымак, але асцерагаюць, што: — „фільм пэньквне!". Не рызыкую.



*Валянціна Кунцэвіч — бібліятэкарка ў Пасынках.*

У Пасынках

## на пошце

можна купіць рэкламаваны парашок, касметыку і ўсякую ўсячыну. Якраз бабуля прыйшла па пенсію.

— У раскошы не жывецца, але я не наракаю. Пражыць можна, і я на ўрад не скарджуся, — кажа пенсіянерка.

Дастаўшы пенсію, купляе яшчэ каляндар і парашок „Pollena 2000". З нескрыванай радасцю прыслухоўваюся начальніку пошты, які карыстаецца беларускімі лічэбнікамі.

— Тут гэта нармальная справа, усе гавораць "па-свойму", — кажа Сцяпан Кучынскі.

Сам ён даязджае з Бельска ўжо шмат гадоў. Памятае часы, калі на пошту прыходзіла 50 экземпляраў „Нівы". Цяпер прыходзіць толькі 6 асобнікаў. Пастаянныя падпісчыкі — тры асобы з Кожына. Апошнія экземпляры прадаюцца ў іншых вёсках. Людзі чытаюць „Ніву", бо дзеці прыносяць яе са школы. У школу „Ніва" ідзе іншым шляхам, не па пошце.



*Сцяпан Кучынскі — начальнік пошты ў Пасынках.*

## Вясковая бібліятэка

знаходзіцца ў будынку „аграрамоўкі". Палову залаў займае школа, дзе вучацца малодшыя класы.

Бібліятэкар — спадарыня Валянціна Кунцэвіч — ведае беларускую літаратурную мову. Паясняе мне, што вучылася яе ў пачатковай беларускай школе ў Крывой, у якой тады польская мова была дадатковым прадметам. Мінула шмат часу, а спадарыня Валянціна памятае добра мову.

У бібліятэцы недзе 14 тысяч кніжак. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца раманы серыі „Арлекін" і серыя „з сардушкамі". Чытачоў тут многа, асабліва маладых людзей. Спачатку бібліятэка мела 9 філіяльных пунктаў, цяпер — 5. Плата за працу ў бібліятэчным пункце смешная, бо за квартал можна атрымаць 20 або 30 тысяч злотых. Спадарыня Кунцэвіч любіць сваю працу. Многа чытае.

— Мушу памагаць сваім чытачам і ў выбары кніжкі, і ўмець іх зацікавіць.

Яна жыве ў Пасынках і сваіх чытачоў ведае з маленства. У бібліятэцы няма беларускіх сучасных кніжак:

— Усё такое старое, прачытанае. Атрымоўваецца ўражанне, што ў нас няма ні паэтаў, ні пісьменнікаў. Але цяжка мне сказаць, калі б былі новыя кніжкі ці карысталіся б яны папулярнасцю. Цяпер ніхто пра беларускія кніжкі тут не пытаецца, а даўней чыталі, многа такіх чытачоў было.

— Не ўсе вучні ходзяць на беларускую мову, — заўважае бібліятэкар.

## На прыпынку

І сапраўды, людзі ў Пасынках ведаюць усіх, хто не ходзіць на беларускую мову. Абураюцца нават сяляне, што выхадцы з вёсак не пускаюць дзяцей на родную мову і гавораць тут па-польску. І нярэдка гэта тыя людзі, якія тут лічацца аўтарытэтамі.

— Пэўна, канец свету будзе, — кажа старэнькая бабулька і пачынае ўспамінаць „старыя добрыя часы".

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

# Тры ў адным з дабаўкай

7 снежня г.г. Рэдакцыя гісторыі Дзяржаўнага навуковага выдавецтва (PWN) арганізавала сустрэчу, прысвечаную абмеркаванню планаванай выдавецтвам серыі публікацый пра гісторыю этнічных меншасцяў у Польшчы. У нарадзе прынялі ўдзел прадстаўнікі меншасцяў (беларусы, украінцы, літоўцы, татары і караімы), а таксама прадстаўнікі Хельсінскага камітэта, Міністэрства нацыянальнай адукацыі і гісторыкі-спецыялісты.

Падчас пасяджэння высветлілася, што прысутныя маюць вельмі разнастайныя погляды наконт прапанаванай серыі. Навуковае выдавецтва задумала выдаць тры серыі публікацый: пра нацыянальныя і этнічныя меншасці, пра палякаў за мяжою і пра веравызнанні ў Польшчы. У серыі, прысвечанай этнічным меншасцям планецца выдаць кніжкі пра гісторыю нацыянальнасцяў, якія пражываюць у Польшчы. Былі б яны аб'ёмам у 15 выдавецкіх аркушаў (каля 300 старонак), з 30 ілюстрацыямі і 3—10 картамі.

Хельсінскі камітэт збіраецца выдаваць кніжкі пра нацыянальныя меншасці аб'ёмам у 4—5 выдавецкіх аркушаў, (80—100 старонак) разам з відэакасетай (15 мінут) і касетамі з песнямі ды метадычным дапаможнікам. Кніжкай маглі б карыстацца настаўнікі падчас спецыяльных урокаў, прысвечаных нацыянальным меншасцям.

Міністэрства нацыянальнай адукацыі, са свайго боку зацікаўленае ў падручніках па гісторыі для нацыянальных меншасцяў. Падручнікі прадугледжваюцца для школьнікаў, якія цяпер могуць, па прынцыпу добраахвотнасці, вывучаць сваю нацыянальную гісторыю таксама як родную мову.

Да гэтых трох канцэпцыяў можна дабавіць погляды прадстаўнікоў меншасцяў, з якіх кожны меў свае ўяўленне пра згаданыя кніжкі, аўтараў і г.д. Зразумела, дыскусія атрымалася даволі цікавая. На маю думку, абгрунтаваную шматгадовай дыдактычнай працай якраз у гэтай галіне, пазіцыі Дзяржаўнага навуковага выдавецтва, Хельсінскага камітэта і Міністэрства нацыянальнай адукацыі несумяшчальны, хаця ўсе бакі заяўлялі неабходнасць іх набліжэння (вядома, выданне супольнай серыі намнога аблегчыла б фінансавыя праблемы — такія публікацыі патрабуюць датацыяў). Усётакі, іншае — салідная гісторыя, скажам, Беларусі (або беларусаў), іншае — папулярны даведнік пра беларускую меншасць у Польшчы, ды зусім іншае — падручнік для беларускіх вучняў, якія захочуць вывучаць гісторыю сваёй нацыі ў польскіх школах. Найбольш карысна будзе, калі кожны стане самастойна працягваць сваю справу. Патрэбная і салідная гісторыя кожнай нацыянальнай меншасці, і папулярны даведнік пра яе і падручнік па гісторыі для школьнікаў гэтай жа меншасці.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# У КЛЕНІКАХ ЗАЯЎ НЕ ТРЭБА

За немцаў у Кленіках чыталі „Новы шлях" ды і яшчэ сёння некаторыя людзі там умеюць з памяці гаварыць вершы Шэршня. Некаторыя то і захавалі ў сябе асобнікі газеты. Штосьці з гэтага духа пратрывала да нашага часу, бо ў кленіцкай пачатковай школе няма клопату з утрыманнем навучання беларускай мовы.

Большасць бацькоў, сцвердзіў дырэктар школы Ян Лабузінскі, за тым, каб іхнія дзеці вывучалі гэты прадмет, а значыць уся справа з навучаннем беларускай мовы ніколі ў Кленіках не вырастала ў праблему. Найбольш тут залежыць ад настаўніка, які вядзе тыя ўрокі, дадаў яшчэ дырэктар, бо толькі ён можа задбаць, каб не былі яны аднастайнымі. Там, дзе беларускай мовай займаецца некалькі чалавек, па прынцыпу дапаўнення штату пару гадзінамі, нічога добрага і быць не можа. Беларуская мова, як і кожны іншы прадмет, патрабуе стараннасці і ангажаванасці. Патрэбны таксама той пастаянны куток, у які вучні прыходзяць на беларускую мову. Паколькі не заўсёды, сказаў дырэктар, можна кожнаму прадмету выдзеліць асобны кабінет, то трэба прынамсі пастарацца разумна некаторыя прадметы спалучыць у адной зале. У нас беларуская мова выкладаецца ў той жа зале, што і гісторыя. Яшчэ да таго часу, як стаў я дырэктарам, а займаўся толькі выкладаннем гісторыі, то стараўся я наладзіць у той зале выстаўку, якая тэматычна спалучыла б абодва прадметы.

Выкладаннем беларускай мовы ў Кленіках займаецца Вера Флярчук — выпускніца беларускай філалогіі 1983 года. У школе „дастаткова" гадзін беларускай мовы, каб выпаўніць імі штат — Вера Флярчук мае агулам 21 гадзіну і да гэтага яшчэ выхаваўчы ўрок у восьмым класе.

Вялікая частка выпускнікоў кленіцкай школы паступае ў беларускія ліцэі — вучні з Кленік ідуць у Бельск, а з ваколіц Тыневіч наогул у Гайнаўку. Кленіцкая пачатковая школа, дарэчы, з тых, у якую ходзяць дзеці з дзвюх гмін: Чыжы і Нарва. Самыя Кленікі належаць да Чыжоўскай гміны. У Нараўскай гміне пачатковыя школы самараўдавыя з 1991 года. У Чыжоўскай — куратарыйныя.

У сувязі з адтэрмінаваннем перадачы пачатковых школ гмінам, школа ў Кленіках будзе пад апекай Куратарыі прынамсі два гады, заўважыў дырэктар. Вядома, што Гмінная рада можа прыняць адпаведнае рашэнне ў любы момант, а найхутчэй з пачаткам каляндарнага года. Не выглядае аднак на тое, што войт Чыжоўскай гміны будзе з гэтым спяшацца, як даведаліся мы з неафіцыйнай крыніцы.

**А. МАКСІМЮК**

P.S. Наконт добраахвотнасці: беларускую мову ў Кленіках вывучаюць усе вучні ў класах II—VIII. Асаблівыя заявы бацькоў не патрабуюцца. Ёсць дамова, што вывучаюць усе. І ўсё.

# УТУЛЬНА, ЯК У ШКОЛЕ

6 снежня гэтага года наведаў я **Пачатковую школу ў Семяноўцы** (Нараўчанская гміна). Ходзіць у яе сто дзяцей, у тым ліку трынаццаць дзетак у прадшкольных аддзел, з Семяноўкі ды Тарнопаля, Бабяй Гары, Семяноўшчыны, Пасекаў, Людвінова і Смольніцы. Вучняў з адлеглых вёсак возяць на школьным аўтобусе. Апрача таго, усе вучні харчуюцца ў школьнай сталовай. Дзеці з сем'яў, якія апынуліся ў цяжкой матэрыяльнай сітуацыі, карыстаюцца падтрымкай Гміннага асяродка грамадскай дапамогі ў Нараўцы.

У семяноўскай школе прыемна і ўтульна ў класах і на калідорах. Мінуў усяго год, як іх памалявалі. Свежая фарба і на школьнай агароджы. Асабліва ўтульным здаўся мне бібліятэчны пакойчык. Тут на паліцах даволі багата беларускіх кніжак. Ёсць беларускі тыднёвік „Ніва". Варта адзначыць, што дзеці з семяноўскай акругі ахвотна вучацца беларускай мове. На ўрокі роднай мовы у класах II—VIII ходзіць 52 дзяцей. Вядзе іх настаўніца Ліля Кардаш.

Перад школай бачыў я шмат кармушак. Да птушыных сталовых наведваюцца амялушкі, сініцы і снегіры, а таксама вераб'і. Тутэйшыя вясковыя дзеці вельмі любяць крылатых сяброў. Таму і клапоцяцца, каб лягчэй было ім перажыць найбольш халодную пару года.

Спытаў я пра пазапраграмныя школьныя мерапрыемствы. Кіраўніцтва школы і вучні не раней, чым вясною сарганізуюць экскурсіі ў Беласток і ў Белавежу. Будуць наладжаны менш каштоўныя мерапрыемствы — веласіпедныя рэйды і бівак над Семяноўскім вадасховішчам каля вёскі Тарнопаль.

Зараз ідзе падрыхтоўка да навагодняй ёлкі. Асабліва сярод дашкольнікаў, з якімі займаецца Галіна Лешчук. У мінулым годзе — што адзначыла „Зорка" — была яна вельмі ўдалая.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# НАЙЛЕПШЫЯ ВАЛЕЙБАЛІСТЫ — У БЕЛАВЕЖЫ

Валейбольны турнір за кубак „Зубра", што ў днях 26-27 лістапада г.г. адбыўся ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы, меў прыцягнуць каманды лясных школ з усёй Польшчы. На жаль, шмат калектываў, з-за дрэннага надвор'я ці хваробы валейбалістаў, на спаборніцтвы не прыехала. Усё ж, арганізатары лічаць турнір удалым.

У фінале сустрэліся два з ліку найлепшых калектываў апошняга Чэмпіянату лясных школаў Польшчы, што адбыўся ў сакавіку г.г. у Старым Сончы. Перамогу ім калектыў Лясного тэхнікума ў Белавежы, II месца заняў Лясны тэхнікум у Білгараі, III — мясцовая каманда „Зубр", IV — Вайсковая частка з Нязнанага Бору, V — другая каманда белавежскага тэхнікума.

Суддзі і трэнеры найлепшымі валейбалістамі турніра палічылі Яцка Кратовіча і Кшыштафа Фурманка з Белавежы, а таксама Яраслава Дудка з Білгарая. Пераможцаў трэніруе настаўнік Войцех Гутоўскі.

Турнір адбыўся дзякуючы спонсарству аж чатырнаццаці ўстаноў і ўласнікаў прыватных крамаў ці суполак з Беластока і Белавежы.

**ПЁТР БАЙКО**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



— *А мне што прынёс Дзед Мароз?..* Фота М. Лукшы

З гісторыі Беларусі

## ГЕДЫМІН

Гедымін быў сынам вялікага князя Віценя і ўзышоў на вялікакняскі пасад у 1316 годзе пасля смерці бацькі. Пачатак яго княжання быў азначаны перамогай над крыжакамі пад Жэймамі. Каб супрацьстаяць Ордэну, вялікі князь узводзіць шэраг замкаў на паўночным захадзе Беларусі (у Троках, Вільні, Медніках, Новагародку, Лідзе, Мядзелі). Ён жа пераносіць сталіцу Вялікага Княства з Новагародка ў Вільню — старадаўні цэнтр крывіцкай каланізацыі, які напачатку меў назву Крывіч-горад — і будуе там замак. У 1320 годзе каля Меднікаў Гедымін на чале беларускага войска зноў разбіў крыжакоў. Але дасягнуць перамогі над Ордэнам, спадзеючыся толькі на зброю, было немагчыма, таму ён актыўна падтрымліваў варожых крыжакам Рыгу, Пскоў і Польшчу.

Шукаў Гедымін і міжнароднага прызнання Вялікага Княства і з гэтай мэтаю паслаў грамату да папы рымскага Яна XXII, у якой паведамляў, што жадае прыняць хрысціянства паводле заходняга абраду, а таксама ахрысціць паганаў у сваёй дзяржаве. Але планы Гедыміна не знайшлі падтрымкі ні сярод праваслаўных, ні сярод прыхільнікаў паганства ў Вялікім Княстве. Акрамя таго, яны не адпавядалі і палітычным інтарэсам Ордэна крыжакоў, бо касавалі „падставу" іхнай экспансіі на ўсход. І вялікі князь мусіў адмовіцца ад сваёй задумы.

Следам за сваімі папярэднікамі Гедымін працягваў палітыку аб'яднання беларускіх земляў, умацавання нашага гаспадарства. У часы яго валадарання ў склад княства ўвайшлі Менская, Віцебская, Турава-Пінская землі. Палітычная мудрасць Гедыміна выявілася ў тым, што новым землям ён гарантаваў захаванне традыцыйных законаў — „старыны не рушыць, навіны не ўводзіць".

Загінуў Гедымін падчас штурму нямецкага замка Баербург у 1341 годзе.

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА!"

Піша табе вучаніца пятага класа Пачатковай школы ў Дубінах Мажэна Каролька. Я жыву ў вёсцы Васількова, а маёй найлепшай сяброўкай ёсць Анэта Кураш. У нашым класе 26 вучняў: 11 дзяўчынак і 15 хлопцаў. Я вельмі люблю беларускую мову. У нас вучыць яе Мікалай Федарук. Мы на ўроках чытаем беларускія казкі.

У Дубіны ў школу я езджу аўтобусам. Нам вельмі добра вучыцца ў нашай школе, таму што мы любім сваіх настаўнікаў, стараемся, каб было чыста ў школе і вакол яе.

Усім чытачам „Зоркі" шчаслівага Новага года і найлепшыя святочныя пажаданні ад

МАЖЭНЫ КАРОЛЬКА

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Пасля двух тыдняў наведання школы, Янка прыходзіць дамоў і гаворыць:

— Мамачка, я ўжо ўмею пісаць!

— О-го! А што ты напісаў?

— Не знаю; я яшчэ не ўмею чытаць.

* * *

Бабуля да ўнучкі:

— Чым цябе корміць мама, што ты так прыгожа выглядаеш?

— Лыжачкай!

А. ГАЎРЫЛЮК

## ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

7

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

### Дзве літары ў слове

Гульня праводзіцца ў два туры. П е р ш ы — пісьмовы: са спалучэннем дзвюх літар *(ро, лю* і да т. п.) трэба запісаць абумоўленую колькасць слоў, напрыклад, *дарога, гром, рог, вецярок, рота.* Лісткі з прозвішчам і запісанымі словамі адразу пасля выканання задання здаюцца „прыёмшчыку", які іх нумаруе і перадае ў журы. Вынікі падводзяцца так: за кожнае правільна напісанае слова (каліграфія і арфаграфія) — бал; тром (калі гуляючых мала — аднаму) першым, здаўшым правільныя адказы, — дадаткова па тры балы, тром (аднаму) наступным — па два, яшчэ тром (аднаму) наступным — па аднаму. Колькасць балаў пішацца на кожным лістку.

Д р у г і т у р — вусны: удзельнікі па чарзе выклікаюцца ў журы і, атрымаўшы свае лісткі, чытаюць (і растлумачваюць у асобных выпадках) запісаныя імі словы, затым вяртаюць журы лісткі, на якіх зноў выстаўляецца колькасць балаў за кожнае правільна прачытанае слова (улічваецца артыкуляцыя, арфаэпія, дакладнасць тлумачэння). Пасля гэтага журы падводзіць падлік балаў за абодва туры і аб'яўляе месцы.

### Дзве літары — адзін гук

Раздаюцца карткі, на якіх напісаны або наклеены выразаныя з друкаванага тэксту (яго можна браць з макулатуры) словы з *дз* і *дж*, якія трэба правільна прачытаць (злітна, адным гукам: захоўваючы патрабаванні арфаэпіі: [м'адз'вец'], [дошч]. Карткі можна ўпрыгожыць адпаведнымі малюнкамі, аплікацыямі. Яшчэ цікавей зрабіць карткі толькі з малюнкамі (аплікацыямі) прадметаў і з'яў, якія трэба назваць.

Вядучы сочыць, каб словы ўжываліся свядома і былі зразумелыя для ўсіх, таму кожны павінен быць гатовым растлумачыць свае словы.

### Склад — націск

Вядучы вымаўляе слова і паказвае на аднаго з удзельнікаў — той называе колькасць складоў у ім. Адказаў правільна — выходзіць да дошкі; памыліўся — застаецца на месцы. Гэта п е р ш ы т у р.

## ТОМ ЦІТ ТОТ
### англійская казка

Жыла раз жанчына, якая мела прыгожую, але не вельмі разумную дачку. Прыгатавала яна аднаго дня пяць пірагоў. Выняла іх з печы, але скурка на іх была цвёрдая, таму яна сказала дачцэ:

— Пакладзі пірагі на паліцу, няхай яшчэ падыдуць.

Жанчына мела на ўвазе, што скурка на іх памякчэе. Але дзяўчына не ўцяміла і кажа сама да сябе:

— Калі яшчэ пірагі падыдуць, дык гэтыя я магу з'есці.

І з'ела. Усе пяць.

Надышоў час вячэры, і жанчына кажа дачцэ:

— Пайдзі і прынясі пірог. Яны, пэўна, падышлі.

Дачка пайшла, але ўбачыла :а паліцах адно талеркі. Прыходзіць яна да маці дый кажа:

— Не падышлі яшчэ.

— Ні адзін не падышоў?

— Ні адзін.

— Усё роўна нясі пірог, бо я галодная.

— Як жа я магу прынесці, калі яны яшчэ не падышлі?

— Так і нясі. Самы лепшы.

— Але я ўсе з'ела, — кажа дачка, — і пакуль не падыдуць новыя, вячэры не будзе.

Вой як пабіла жанчына дачку-дурніцу! Але нічога не паправіш. Узяла яна пражу, села на ганак і пяе:

— Мая дачка, дурніца-дачка, з'ела пяць, цэлых пяць пірагоў!

Тут якраз па вуліцы ехаў малады кароль і пачуў яе песню. Але словаў не разабраў. Спыніўся ён і запытаў жанчыну:

— Што ты там пяеш?

Засаромелася жанчына. Не хацела, каб сам кароль ведаў, якая ў яе дачка. І заспявала іначай:

— Мая дачка, разумніца-дачка, напрала пяць, цэлых пяць маткоў!

— Які цуд, — здзівіўся кароль. — Ніколі не чуў пра такую майстрыху. Паслухай, жанчына, я ажанюся з тваёй дачкой. Адзінаццаць месяцаў яна будзе мець усё, што пажадае: любую ежу, вопратку, падарункі. Але апошні месяц года яна кожны дзень павінна будзе прасці пяць маткоў воўны. Калі ж яна хаця аднойчы гэтага не зробіць, я адсяку ёй галаву.

— Добра, — згадзілася жанчына, бо хто ж будзе пярэчыць каралю, хаця і маладому. Дый мець зяцям самога караля! Што ж да тых пяці маткоў, дык за адзінаццаць месяцаў можна нешта прыдумаць. А, можа, кароль на іх забудзецца.

Адгулялі вяселле. Адзінаццаць месяцаў маладая каралева жыла, як у раі: ела, што захоча, насіла найпрыгажэйшыя сукні. Але пяць маткоў не давалі ёй спакою. Кароль жа пра іх нічога не казаў, і дзяўчына патроху на іх забывалася.

А ў апошні дзень адзінаццатага месяца кароль прывёў жонку ў пакой, дзе яна ніколі дагэтуль не была. Там не было нічога, акрамя верацяна і крэсла.

— Вось тут, дарагая, — сказаў кароль, — ты будзеш жыць увесь наступны месяц. Вось табе пяць маткоў воўны, і калі заўтра не будзе пяці маткоў нітак, табе адсякуць галаву.

Як спалохалася маладая каралева! Заўсёды ж яна не хацела працаваць і дапамагаць маці. Нават не ведала, як верацяно ў руках трымаць! Што ж цяпер рабіць! Села яна на крэсла і заплакала.

Раптам пачуўся грукат у дзверы. Устала каралева, адчыніла дзверы і ўбачыла на парозе маленькага чорнага чалавека з доўгім хвастом.

— Чаму ты плачаш? — тонкім голасам запытаў чалавечак.

— А навошта табе ведаць?

— Скажы, можа, я змагу дапамагчы табе.

— Нічым ты мне не дапаможаш, — хітнула каралева галавой.

— А вось гэтага ты ведаць не можаш, — заўважыў чалавечак і пакруціў хвастом.

— Добра, — згадзілася каралева. — Горш ужо не будзе, — і расказала яна яму ўсё, пачынаючы ад пірагоў і матчынай песні.

 

**Другі** праводзіцца з тымі, хто каля дошкі. Кожнаму чытаецца аднолькавая колькасць слоў (розных). Пасля кожнага слова воплескамі паказваецца колькасць складоў: ненаціскныя — далоні перад сабою, націскныя — уверсе. Правільна вызначыў — застаецца, памыліўся — вяртаецца за свой стол.

**Трэці тур** для тых, хто застаўся. Вядучы называе дзве лічбы: першая — колькасць складоў, другая — націскны склад (3—1; 4—3; 4—2 і г. д.). Потым звяртаецца да кожнага па чарзе, кожны павінен за тры — пяць секунд вымавіць адпаведнае слова. Не паспеў — вяртаецца за стол (можна дамовіцца аб двух або трох спробах). Застаюцца пераможцы трох тураў, якія вяртаюцца на месцы пад апладысменты астатніх.

## Крокі

Двое становяцца пасярод класа (пакоя, дарожкі), адлегласць паміж імі — крок. Пачынаюць па жэрабю. Першы робіць крок уперад і гаворыць „пароль" — аднаскладовае слова (*на, пі, мы* і інш.), другі павінен адказаць двухскладовым (па дамоўленасці — трохскладовым), у якім ёсць такі склад *(нага, сена, пісар, мыла, дамы)*. Паспеў за дзве-тры секунды — робіць крок уперад, а першы адступае на крок; не паспеў — першы зноў называе „пароль" (той жа ці іншы) і робіць крок уперад. Гульня канчаецца, калі адзін літаральна прыпрэ другога да сцяны (да канца дарожкі, да раней адзначанай рыскі і да т.п.). Да такой гульні трэба добра падрыхтавацца: назапасіць дастаткова слоў.

## Склады наадварот

Вядучы становіцца ў сярэдзіне круга ўдзельнікаў, называе слова і кідае мяч каму-небудзь з іх. Той павінен кінуць мяч вядучаму і адказаць словам, памяняўшы месцамі склады: *рама — мара, вужы — жыву, ліжа — жалі, лаза — зала, ліса — салі, ліпа — палі, Шура — рашу* і інш. Вядучы павінен даваць і такія словы, з якіх новыя не ўтвараюцца: *вада, кава* і інш. І калі нехта „ўтварыў" такое слова, ён выходзіць з круга (або — па дамоўленасці — атрымлівае чорную фішку, штрафное ачко, у той час як за правільны адказ — белую) і вяртаецца назад толькі тады, калі сам выдумае патрэбнае для гульні слова.

## На пальцах...

Гульня праводзіцца так: вядучы чытае па складах словы — удзельнікі адразу ж паказваюць пальцамі, колькі літар у складзе (руку трымаць далонню да сябе; адна літара — указальны палец выпрастаны, астатнія ў кулаку; дзве літары — указальны і сярэдні і г.д.). Правільна падлічыў — атрымаў фішку.

Калі ўдзельнікаў пяць—сем, фішкі раздае сам вядучы; калі больш — яму патрэбен памочнік.

Пачынаць трэба з двухскладовых слоў, у кожным складзе — адна-дзве літары; затым паступова ўскладняць задачу: трохлітарны склад у двухскладовым слове, трохскладовыя словы з двухлітарнымі складамі, потым з трохлітарнымі; цяжэй за ўсё — аднаскладовае слова з чатырма-пяццю літарамі *(кран, склеп)* і двухскладовае, дзе ёсць такі склад *(скрэ-пер)*. Больш цяжкія словы даваць дзецям немэтазгодна, а вось падлеткам — нават цікава — тут можна наладзіць маланкавую эстафету: першы ў шарэнзе дае такое слова суседу, той — наступнаму і г.д.; хто памыліўся — выходзіць з шарэнгі, паказаў правільна — застаецца і прапануе сваё слова. Гульня доўжыцца, пакуль застанецца апошні — пераможца.

*(Працяг у наступным нумары)*




*Каторыя са слядоў на снезе гэта сляды сарны?*

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

Пішуць табе Паўліна і Аля, вучаніцы Пачатковай школы ў Орлі. Мы вывучаем беларускую мову. На ўроку мы складалі вершы пра Зіму. Высылаем табе некалькі нашых твораў.

З добрымі пажаданнямі —

**ПАЎЛІНА СІДОРСКАЯ І АЛЯ ЖУК**

**ПТУШКІ**

Птушак сёння нялёгка знайсці
вясёлых,
Калі зіма за парогам стаіць.
Птушкі есці таксама хочуць, не толькі
чалавек.
Ці ты пра гэта падумаў?

Табе цёпла ў хаце, а птушкам?..
На вуліцы холадна...
Каб хоць дзе адно зерне пшаніцы
было!
А ты аб гэтым не думаеш?

**АЛЯ ЖУК**

**ЗІМА**

Прыйшла ты, Зіма,
Марозная, белая.
На пачатку завею
Снегавіка прывяла.

Зіма — цудоўная пара.
Сняжынак поўныя хмары.
Можна ў снежкі іграць,
Снегу ў боты набраць!

Зіма, Зіма, Зіма!
Заўсёды марозная!
Дзеці з горкі з'язджаюць.
Снегавікоў качаюць.

**ПАЎЛІНА СІДОРСКАЯ,**
**VI клас**

## ЛАГАГРЫФ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | | | |
| 2 | | | |
| 3 | | | |
| 4 | | | |
| 5 | | | |
| 6 | | | |
| 7 | | | |
| 8 | | | |
| 9 | | | |
| 10 | | | |
| 11 | | | |

1. жывёла з ражкамі і барадою, дае пажыўнае малако, 2. моцная хатняя жывёла, 3. вялікая жывёла з іклямі і трубою, 4. птушка — сімвал мудрасці, 5. орган мовы, 6. маці, 7. канечнасць з каленам, 8. птушка з польскага дзяржаўнага герба, 9. цячэ ў рэчцы, 10. школьнае аддзяленне, 11. снежная і марозная пара года.

Вылучаныя літары складуць віншаванне.

Адказ на лагагрыф з 48 нумара: вецер, казка, пясок, Данія, бусел, акцёр, бочка, экран, ікона. Калектыў з Бельска — „Васілёчкі".

Узнагароды атрымоўваюць: **Марта Федарук, Ганя Кардзюкевіч, Міхась Таранта і Агнешка Міхальчук** з Бельска-Падляшскага.

# Чым падкормліваць птушак?

Дзеці любяць даваць птушкам есці. Ля хаты або каля школы павесілі яны кармушкі і ў іх будуць падкормліваць птушак. Але чым? Перш-наперш хлебам і крупамі. Такі корм добры на тое, каб прагнаць голад. А калі хочам, каб птушкі былі задаволеныя нашым пачастункам, дык найлепш ім несці тое, што яны найбольш любяць. А гэта найчасцей — насенне розных дзікарослых раслін.

Кожная птушка мае свае ўлюбёныя зярняткі. Напрыклад, гілі (снегіры) вельмі любяць насенне крапівы, клёна, ясеня, плады рабіны. Сініцы і дзятлы — ласуюцца насеннем хвойных дрэў, лясньімі арэхамі. Вераб'ям вельмі смакуе насенне шчаўя і макрыцы.

Вядома, зімою цяжка знайсці гэты корм. Але той з вас, хто памятае аб птушках і летам, навінен пастарацца назбіраць рознага насення для птушак летняю парою. Каб яно добра захавалася да зімы, трэба яго старанна высушыць і трымаць у сухім месцы.

А як Вы дапамагаеце птушкам перажыць самую халодную пару года?

**(яц)**

— Я табе дапамагу, — паабяцаў чорны чалавечак. — Кожны дзень я буду прыходзіць, забіраць воўну і прасці яе.

— А што ты за гэта хочаш? — спыталa каралева.

Чалавечак крыва зірнуў на яе і сказаў:

— Кожную ноч я тры разы буду пытацца пра маё імя. І калі ты не назавеш яго да канца месяца, я забяру цябе з сабой.

Вырашыла каралева, што зможа за месяц адгадаць імя чалавека і згадзілася.

Наступным днём кароль зачыніў яе ў пакоі, дзе ляжала воўна і ежа на дзень. А перад тым як ісці, паабяцаў:

— Калі раніцай не будзе нітак, табе адсякуць галаву.

Не паспеў кароль зачыніць дзверы, як каралева пачула стук у акно. Адчыніла яго і ўбачыла на падваконні чорнага чалавека.

— Дзе воўна? — спытаў ён.

— Вось, — працягнула воўну каралева.

Увечары зноў пачула яна стук у акно. Адчыніла яго і ўбачыла на падваконні чорнага чалавека з пяццю маткамі нітак.

— Як абяцаў, — сказаў ён. — Дык якое ж у мяне імя?

— Біл? — няўпэўнена сказала каралева.

— Не, — адказаў ён і закруціў хвастом.

— Нэд?

— Не, не Нэд, — сказаў той і яшчэ хутчэй закруціў хвастом.

— Тады Марк?

— Не, — сказаў чалавечак, хутка, хутка закруціў хвастом і знік.

Калі кароль прыйшоў раніцай, каралева працягнула яму пяць маткоў нітак. І кожны дзень прыносілі ёй воўну, кожны дзень чорны чалавечак забіраў яе і праносіў ніткі. Кожны вечар прыдумвала яна новыя імёны, але правільнага так і не назвала. І чым бліжэй было да канца месяца, тым злaслівей рабіўся чалавечак і тым хутчэй круціў хвастом.

Нарэшце надышоў перадапошні дзень. Вечарам чалавечак прынёс пяць маткоў нітак і спытаўся:

— Ну што, здагадалася, як мяне завуць?

— Нікадзім?

— Не!

— Сэмуэл?

— Не!

— Тады Майсей?

— Не! Не! — закрычаў чалавечак, паглядзеў на яе сваімі чорнымі, як вугаль вачыма і дадаў: — Заўтара апошняя ноч. І ты будзеш маёй!

Каралева ажно задрыжала ад жаху. Хутка прыйшоў па ніткі кароль. Убачыў зноў пяць маткоў і радасна сказаў:

— Ну, мая дарагая, калі і заўтра ты напрадзеш пяць маткоў, дык застанешся жывой. А сёння я павячэраю з табой у гэтым пакоі.

Прынеслі ў пакой стол, ежу і крэсла для караля. Але не паспелі яны з'есці і кавалка мяса, як кароль голасна засмяяўся.

— Што з табой? — спыталася жонка.

— Сёння я паляваў у лесе, — адказаў ён, — і трапіў у месца, дзе ніколі яшчэ не быў. Убачыў там старую яму, з якой несліся гукі, падобныя да спеваў. Злез я з каня і ціхенька пайшоў да ямы. І каго, ты думаеш, я ўбачыў? Смешнага чалавечка. Ён круціў верацяно і спяваў:

Німі, німі нот.
А я Том Ціт Тот!

Пачуўшы гэта, каралева ад радасці ледзь са скуры не выскачыла. Але стрымалася і нічога не сказала.

Наступнай ноччу, калі яна адчыніла акно, зноў убачыла на падваконні чалавечка з пяццю маткамі нітак. Усмешка ў яго была ад вуха да вуха, а хвост круціўся, як шалёны.

— Дык як маё імя? — спытаўся ён, аддаўшы ёй маткі.

— Саламон? — сказала яна, прыкінуўшыся перапалоханай.

— Не! — сказаў чалавечак і пайшоў да яе.

— Можа, Ісая?

— Не! — сказаў ён, зарагатаў і так закруціў хвастом, што таго было амаль не відаць. — Думай, жанчына, думай. Яшчэ адна спроба і ты — мая!

І чалавечак працягнуў да яе свае чорныя рукі. Але каралева адышла на два крокі, гарэзліва паглядзела на яго, засмяялася і запела, паказваючы на яго:

Німі, німі нот.
А ты Том Ціт Тот!

Пачуўшы гэта, чалавечак дзіка завішчаў і знік. Болей яго ў нашых краях ніхто не бачыў.

**Пераклаў Алесь Кудраўцаў**



 

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# МАЙСЫ Ў ДАЎНІЯ ЗІМЫ

У бацькавай шаўцоўні збіраліся зімовымі вечарамі мужчыны. Я, вучань яшчэ, стрымгалоў рабіў хатнія задачы на заўтрашнія ўрокі і бегма пёрся ў той іх рогат, слухаць майсы.

Увальваўся Антыфон у кажусе ды ў настабурчанай ягнячай шапцы, усыпанай ячменнымі асцюкамі. Стары Клім ужо грэў косці, упёршыся буркаю ў сцяноўку. Сухому Чаркесу ўсё заставаўся край ляжайкі, на якой распасціраўся зладзеяваты Ірад, байструк кульгавай Ваўчыцы, што прыбірала калісьці ў карчме Ізраіля. Не бракавала махлярскага парабка ў былым двары дэ Вір'яна; яму надаў быў кульбакаю ўкаплех пануры амцкамісар у акупацыю, ахрысціўшы яго за байкі якімсьці Шэкспірам... З люстэркава наглянцаваных ангелькаў марудна абівалі ў сенях снег Цар з Манахам, кавалеры не першай маладосці. Прывалакаўся Апостал, без нічога на галаве із барадою на грудзях, у перавязаных рамянямі лапцях; вашывы гультай. Тон задаваў Платонік з прадмесця пад Разбойнікам. Гэты гімназіст яшчэ да з'яўлення ў рэвалюцыю бальшавікоў прэтэндаваў цяпер у выбарах царкоўнага старасты, але людзі не хацелі яго, не любілі за тое, што не прызнаваў аніякіх памылак...

Бацьку падабалася зборня. Не нудзіўся з чаляднікам. Калі вечар пераходзіў у ноч, і ў зацішлы ўжо за вакном вэрхал дзецярні на санках не чувадь было, каб хто хадзіў па Сакольскай, круцілі трафейны „Філіпс": гаварыў Лондан. Потым слухалі Маскву і Варшаву. Так даходзілі да праўды аб тым, што чаўпецца на сталінскім свеце. Але гэта пасля, перш самі нагаварыўшыся.

— Іду я, ну, поцемкам ад стадолы, з рэзгінямі трасянкі карове, аж, ну, штосьці чорнае як не шасне перада мною, і ў неба падняўся! Ай-я-яй!!!... — кажа навіну гугнявы Антыфон.

— Можа, сабака чый..., — неўпапад балбатнуў бацька, бо мужыкі маўчалі.

— Ага, бачыў хто лятаючага сабарна? — слушна запрыкмеціў Цар.

— Не інакай, курапатка выпырхнула, — лагічна высвятляў Платонік.

— Не кажы, лопат крылаў пачуў бы! — запярэчыў Антыфон. — Хіба ж не ведаю?

— А снегу пыльнула? — заблішчэлі вачыскі ў Апостала. — Бо, калі не...

— Як сказаць: вецер дзьмуў з боку, ну, ад Кабылых горак, — бянтэжыўся Антыфон.

— Во-во, думаеце, гэта так сабе? — пагладзеў туды-сюды Шэкспір і абцёр кулаком успацелы лоб.

Клім пачухаўся плячыма, бы парсюк пад плотам. Ірад драмаў па-кашэчы, незнарокам саўгануўшы Чаркесу валёнкам у бок. Цар перапыніў асобную гаворку з чаляднікам, пацікавіўся:

— Вялікае было тое?

Антыфон, рады адказаць яму:

— Ну, ай-я-яй, на птушку не падобнае...

— Чорт! — дадумаўся Манах.

— Пірындзіш! — дастойна раззлаваўся Цар. — Табе ўсё чэрці ў вербах свішчуць!!

— Ну, хлопцы, ціха-ша, не сварыцеся, — умяшаўся бацька, баючыся, каб не счапіліся, як тады, ляснуўшы электрычную лямпачку і адзін аднаго мала не парнуўшы нажом.

Я ўціснуўся ў кут, дзе валяліся абрэзы хромавых да юхтавых скураў, адчуваючы, як сцяна дыхціць холадам, а за ёю таемна гудзіць на марозе тэлефонны слуп, што за Антыфонавай хатаю, не даходзячы да маста над Смярдзюховым ровам. Бацька з чаляднікам стукацелі малаткамі, заганяючы ў падэшвы новай пары ботаў драўляныя цвікі, прыкідваючыся, што толькі тым яны і занятыя. У кухні ляскацела посудам маці.

— Табе, Антыфон, шанц папаўся! — гулліва падаў голас Клім і здалося мне, што ад гэтага ўсе здрыгануліся, а чаляднік згорбіўся. — Не тое, што мне! — крыкліва гаварыў, быццам не маючы пэўнасці, ці даслухаюць яго. — Вязу я гэта ў глыбокую восень з Нецавага млына мэтар пытляванкі і трохі мяшкоў восыпкі свінням, ага. Цемрадзь, вядома, бо які ж дзень у такую пару... Паспеў пераехаць Ксяндзоўскі брод; тут конь узяў і стаў. Зад воза пакуль у вадзе, бераг зусім нястромкі, ваўкоў не відаць, да мястэчка не будзе і вярсты, а ён, падла, ані руш! Я яго і па-добраму, і пугаю, урэшце злез паглядзець, што тамака. І, думаеце, нічога? Сядзіць, во, на дарозе ні баба, ані мужык, з хусткаю на галаве, але ў нагавіцах, словам не азвецца, плюскае ано вачыма, трымаецца проста, бы з Крушынянаў татарын на падушках у свята, нешта паказвае рукамі, а не зразумець...

— Чорная Венерця з Пагулянкі напілася! — не стрываў Шэкспір, ажно Ірад расплюшчыўся.

Ад палёгкі доўга смяяліся. Клім заеўся абразаю, чухаючыся, калі ўжо прапала і асалода ад таго. Яму, аднак, верылі, і Антыфону, адначасова пераўтвараючы ўсенька ў жарт, бо як жа варочацца са страхамі дамоў, апоўначы аднаму.

Найбольш бойкія майсы расказваў менавіта Шэкспірська.

— Занадзіўся да маіх авечак, каб яго зараза пакацілa, ваўчуга, — пачаў свае слова і адразу было ясна, што рагаты дзядзька няхутка адважыцца палохаць яго. Майсы, наогул, паўтараліся, ведалі іх напамяць, і часта папраўлялі, калі хто забываўся і недакладна перaапавядаў. — Эгэ, прыкінуў я, тутка нешта не тое, бо той нібыта шэры падкапацца пад падрубу то, чаму не, здолеў, аднак жа ніводную бляюшку не зарэзаў, ано воўны поўна надзёр з іх. Значыць, чакае ён мяне. Добра, чорце лазаты! Стаіўся я ўночы ў хляве каля тае дзіры, ані дыхну; прыхапіў з сабою сякеру і кавальскі цвік, от, прыдасца. Поўнач ціхутка мінула, жывіна сапе, сторож гарбарні Цэзарыка дварняка кліча на абход, а я, нічога, цікую, вокам не маргну. Як першыя пеўні праспявалі, бачу, паказваецца ўнізе там пухкі хвост і махаецца; быдляціна мая кідаецца на сцены, паніка ў хляве, а я тым часам ухапіўся абеўруч за той хвасціска і аб кант бервяна, раз і загнуў! Эгэ, братка, нікуды ад мяне не падзенешся, дурню валахаты! Яшчэ і прыгваздзіў яму макаўку, фэст абухам! Ах, і што ён не вырабляў, праняў яго панос, гнала адтуль, бы з пажарнай помпы! Мерыўся, дрыстун, у мяне пацэліць... Дудкі, эгэ, не на таго напаў! Чую, ужо просіца: пусці, Шэкспір... Пытаю: а што за гэта будзе... Адказвае, мяўкаючы: чаго толькі захочаш, Шэкспір... Кажу яму: нашто мне твая ласка, зраблю цябе бясхвостым. А ён як не заенчыць: засмяюць мяне ў пекле!..

— Ай-я-яй!!! — пацёр пудовымі далонямі Антыфон.

— Файны байран! — адгукнуліся ісламскія гены ў Чаркеса.

— Чорная Венерця... — не мог перахварэць сваю няўдачу Клім.

— То гэта не быў воўк?! — прачнуўся Ірад, як заўсёды, ці то змораны крадзежніцтвам, ці бо нявыспаны ў шматдзетнай цеснаце матчынай кучы.

— Трэба было перахрысціць! — натхнёна параіў Апостал, адпаведна склаўшы пальцы і ўпёршыся зрокам у іконку над варштатам.

— Што і каго, Апостал? — рацыянальна перапытаў Платонік.

— О, блядзь! — вылаяўся Цар.

— Госпадзі, якое жа ж язычніцтва мае вушы церпяць! — узмаліўся Манах.

Бацька згасіў гаману.

— Даволі, хлопцы, дайце чалавеку скончыць.

Шэкспіру пасур'ёнеў твар:

— Эгэ, выцягнуў я жалезіну чорту з прышпіленага ёю хваста, хай бяжыць да сваіх, смярдзюх, нячыстая сіла. Завядзі з такім гешэфты, то і самому можна ачарцець, ну не!?

— Малады, пэўна, быў, бо старога рагача ты так не падчапіў бы, нябось... — невясёла бурчэў Клім, але яго ўжо не слухалі, паставіўшы вушы на далёкі голас Лондана, адкуль перадавалі wiadomości dobre czy złe, ale zawsze prawdziwe.

# ШАСНАЦЦАЦЬ КНІЖАК

Ва ўмовах рынку, як ніколі, выдаюцца беларускія кніжкі, хаця вядома, што матэрыяльнага прыбытку яны не дадуць. Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" выдала ў студзені 1993 г. (з датай 1992 г.) зборнік апавяданняў Міры Лукшы „Дзікі птах верабей", а пад канец года дзве кнігі Сакрата Яновіча: „Dolina pełna losu" (на польскай мове) і „Terra incognita: Białoruś" (па-польску і па-беларуску), а таксама зборнік фельетонаў Юркі Генюша „З маёй званіцы". Спонсарам Сакрата Яновіча была таксама фірма „Амега" з Бельска, дзякуючы якой паявілася кніга ягонай найлепшай прозы п.з. „Доўгая сьмерць Крынак". З паэзіі выйшлі кнігі: Міры Лукшы „Замова" (выдаўца — Асацыяцыя беларускіх журналістаў), а ў менскім выдавецтве „Мастацкая літаратура" — зборнікі Надзеі Артымовіч „З неспакойных дарог" і Міхася Шаховіча „Кліч". БГКТ выпусціла зборнік паэзіі Дз. Шатыловіча „Маё Падляшша". Літаб'яднанне „Белавежа", пры спансараванні Міністэрства культуры і мастацтва выдала славутага „Уліса" Джэймса Джойса ў перакладзе Яна Максімюка. „Юнацтва" ў Менску выпусціла кнігу „Паратунак" Міколы Гайдука, прыдатную не толькі для маладых чытачоў. А з навуковых кніг паявілася „Białorusini w Polsce. 1944—1949" Яўгена Міклановіча (Państwowy Instytut Wydawniczy) і „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie" а. Рыгора Сасны (suplement II).

На польскай мове ў бібліятэцы Літаб'яднання „Белавежа" выйшла кніга Тэрэсы Занеўскай пра „белавежскіх" пісьменнікаў і літаратурна-духовыя польска-беларуская кантакты „A dusza jest na Wschodzie".

Выдавецтва таварыства „Вершалін" у Беластоку выдала кнігу Аляксея Карпюка пра „прарока" Ільлю Клімовіча „Raj w Wierszalinie, czyli przygadki Eliasza" ў перакладзе Сакрата Яновіча на польскую мову.

Мікола Гайдук рэдагаваў зборнік духоўнай паэзіі „Храм і верш", выда-дзены Праваслаўным брацтвам.

Усе кнігі можна набыць у рэдакцыі „Нівы", апрача зборніка Надзеі Артымовіч, які практычна амаль увесь вокаімгненна разышоўся ў Беларусі. Не маем ужо кнігі Я. Міклановіча.

У цяжкі год — 16 кніжак! Такога яшчэ не было! А, можа, гэта і мае быць нармальны стан літаратурнага жыцця?..

(лук)




*БАРЫС РУСКО*

**ВЯЛІКІ ВЕЧАР**

Свечка ў вянку цеплыні,
як добры позірк,
будзе са мной да світання.
Вялікі Вечар збірае каменне
і ўкладвае ў зоркі і ў шэпт.
Вось дарога...
Ступні цалуй на пурпуры
расцвіўшага хараства.
Бачыш, як дрыжыць,
як пакутуе,
як просіць праменні пякучыя.

А ў душы Тваёй толькі лілеі блакітныя
з летняга саду раскошы.

У Вечар Нараджэння
адзінота — то боль — крываточыць,
як рана Хрыстова.

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

* * *

Ці ж гэта ты — пыталіся людзі
вырас так хутка падарослеў
заўсёды быў дзіцём у маці
і гэтага пазбыцца не сумеў

Калі радзіўся песня вясняна
сеяла ў полі жоўтыя кветкі
а волас шумеў як лён часаны
ніхто не прыходзіў у адведкі

Сляды мае першыя ў радзімай Кузаве
з рукою прымусу пісаў і пісаў
не думаў што старасць асвеціцца
ў славе
на гэтую хвілю я доўга чакаў

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**РАНАК НАД РАКОЙ**

На ўсходзе воблакаў шлячок.
Заззяў святлом чырвоным,
Пайшоў на захад ночы змрок,
Адкрыўся луг зялёны.

За ім зноў вырaслі палі
З пшаніцаю і жытам,
І пояс лесу пры зямлі,
І стаў імглой заліты.

А сонца круг пакінуў лес,
Паплыў вышэй па небе.
Здаецца: гэта Геркулес
Пакінуў ложак Гебы.

Гарыць шырокая рака
Купаецца ў праменнях.
Аблокаў бель, як з малака,
Празрыстым гладзіць ценем.

Плывуць па рэчцы вудары,
Прыгорбіўшыся ў лодцы,
Вудзільны рэюць угары,
Як жураўлі у вёсцы.

Праменні вырвалі ад сну
Капэлу звонкіх птушак.
І разагнаўшы цішыню
Іх песняй песцяць вушы.

Прыемна ранкам паглядзець
На каларыт прыроды,
Без скавытання, без людзей
Чуць подыхі свабоды.

І цешыцца далей жыццём,
Пакінуўшы прыёмы.
Не сустракацца тут са злом,
З душэўным болем стомы.

**ТЫ НЕ ПЛАЧ...**

Ты не плач тут, мая дарагая,
Бо шкада слёз з цудоўных вачэй.
Як брыльянтаў шнурок, яны ззяюць
І па шчоках плывуць, як ручай.

Ён не варты тваіх успамінаў,
Мук тваіх непатрэбных пакут.
Ты не плач, што цябе ён пакінуў,
Як пусты прайдзісвет, шалапут.

Ён нічога святога не знае,
Ён, як летам малы матылёк
На лузе на ўсе кветкі сядае
Выпівае салодкі іх сок.

А калі прыляціць зімні вецер,
Ён развее ўсю памяць аб ім,
І закіне яго дзесь у смецце,
Бо не даў ён нічога другім.

Ты не плач, ты яшчэ маладая,
І шкада чарнабровых вачэй.
Ты тут хутка другога спаткаеш,
Пакахаеш яго гарачэй.

Мо' з вас будзе шчаслівая пара
І ты цешыцца будзеш з сябе.
Мо твае ўсе з ім споўніцца мары...
Ты не плач больш, прашу я цябе...

# Юбілей айца Серафіма

14 снежня г.г. юбілей 80-годдзя з дня нараджэння адзначаў настаяцель Кафедральнага прыхода Св. Мікалая ў Беластоку айцец протапрэсвітэр Серафім Жалезняковіч. Выконвае ён адначасна абавязкі благачыннага Беластоцкага благачыння.

Айцец Серафім нарадзіўся ў 1913 годзе ў Цімкавічах на Меншчыне ў сям'і свяшчэнніка. У 1935 годзе закончыў ён Віленскую духоўную семінарыю, а ў 1939 — Тэалагічны факультэт Варшаўскага універсітэта. У духоўны сан быў ён рукапаложаны ў 1942 г. і восенню таго ж года назначаецца настаяцелем новатворанага прыхода ў Гайнаўцы. З 1951 года выконваў абавязкі рэктара Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Варшаве, а з 1970 года з'яўляецца настаяцелем прыхода Святога Мікалая ў Беластоку. За гэты час быў праведзены рамонт сабора Св. Мікалая, пачалася пабудова царквы Св. Духа — самага вялікага праваслаўнага храма ў Польшчы, заснавалі новы могільнік у Старасельцах і паставілі на ім царкву Прападобнай Ефрасінні Полацкай.

Айцец Серафім у 1970-х гадах пачаў весці сістэматычную працу з маладымі жыхарамі Беластока — вучнямі сярэдніх школ, студэнтамі і рабочымі. Быў ён прадвеснікам тых дзеянняў, якія прывялі да ўзнікнення Брацтва праваслаўнай моладзі.

Святую Літургію з нагоды Юбілею адправіў у гэты дзень архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава ў саслужэнні многіх свяшчэннікаў і ў прысутнасці шматлікіх вернікаў.

**СЛАВАМІР СУЛКОВІЧ**



*Айцец Серафім Жалезняковіч (у сярэдзіне) падчас сустрэчы з моладдзю на Св. Гары Грабарцы.*

# МАНАСТЫРЫ УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

Ад 25 да 27 лістапада г.г. у Любліне адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная манастырскаму жыццю ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Канферэнцыю арганізавалі Інстытут гістарычнай геаграфіі Каталіцкага люблінскага універсітэта і Інстытут Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Любліне. Удзельнічалі ў канферэнцыі гісторыкі з амаль усіх краін Еўропы. Не буду пералічваць усіх дакладчыкаў і тэмаў іх выступленняў, абмяжуюся толькі да тых праблемаў, якія краналіся Беларусі.

Абмяркоўваючы праблему манастырскага жыцця ў Беларусі на фоне іншых рэгіёнаў Еўропы, трэба заўважыць, што яно высветлена недастаткова. Прычынай гэтаму не толькі брак крыніц. Семдзесят гадоў атэізацыі дало жудасныя вынікі. Зараз няма не толькі сур'ёзных гістарычных апрацовак, але таксама даследчыкаў, якія маглі б такія апрацоўкі зрабіць. У параўнанні з суседнімі народамі, выглядаем мы надта марна. Апрача распрацовак XIX стагоддзя, пісаных царскімі гісторыкамі, няма новай сур'ёзнай літаратуры па рэлігійных пытаннях. Як тады выглядае гісторыя манастырскага жыцця ў Беларусі? На гэтае пытанне прабавалі адказаць прафесары Г. Галенчанка, М. Спірыдонаў, Э. Філатава з Менска і А. Мірановіч з Беластока. На падставе ім меркаванняў гісторыю манастырскага жыцця ў Беларусі можна падзяліць на чатыры перыяды:

I — да 1596 года, калі з XII стагоддзя развівалася праваслаўнае манаскае жыццё,

II — ад канца XVI стагоддзя да 1839 года, калі паралельна дзейнічалі манастыры розных веравызнанняў: праваслаўныя, уніяцкія і рымска-каталіцкія,

III — ад 1839 да 1917 года, калі адраджаецца ўсходні манастыцызм, аднак мяняецца яго роля і заданні,

IV — ад 1917 года да канца васьмідзесятых гадоў, калі бальшавікі зруйнавалі праваслаўныя і каталіцкія манастыры.

У гэтым месцы трэба падкрэсліць, што ў перыяд сацыялістычнай улады ў Польшчы колькасць манастыроў, манахаў і манашак павялічылася ў некалькі разоў! Польшча — гэта адзінае выключэнне на фоне дзяржаў, падуладных таталітарнай сістэме. Усе іншыя сацыялістычныя краіны зліквідавалі шмат манастыроў, а ў некаторых, як у Чэхаславакіі, былі ўсе закрыты.

Вельмі цікава было пачуць, як выглядае манастырскае жыццё ў Сербіі ці Балгарыі. Выступленні Яна Леснага з Познані і Віялеты Стоінявай з Сафіі выдатна наблізілі гэтую праблематыку, зусім дагэтуль адсутную ў польскай гістарычнай літаратуры. На жаль, былі таксама выступленні, пранікнутыя атмасферай сучасных канфліктаў. Дамініканец з Заграба, айцец Марыя Радэлі прадставіў заходні, харвацкі погляд на гісторыю манастыроў на Балканах. Сказаў ён таксама, што ўладыка Іардан, які хрысціў польскага князя Мешка I, быў харватам. Відаць, палякі прынялі хрысціянства не ад чэхаў, а ад харватаў. Такія выступленні былі аднак рэдкасцю на канферэнцыі.

Польскія, французскія і італьянскія гісторыкі звярталі ўвагу не толькі на статыстычныя праблемы, якія даследаваліся раней. Зараз яны разглядаюць спецыфіку паасобных ордэнаў у розных перыядах гісторыі. Шмат увагі было прысвечана такім праблемам, як колькасць часу, якую манахі і манашкі адводзілі на харытатыўную ці асветніцкую дзейнасць. Падборка праблемаў паказвае дыстанцыю паміж гісторыкамі, якія займаюцца вывучэннем гісторыі ўсходняга і заходняга манастыцызму. Пакуль мы не адкажам на асноўныя пытанні, дзе і якія манастыры былі на Беларусі, няма што думаць пра іншыя праблемы.

Канферэнцыя ў Любліне паказала сапраўдны стан ведаў, некарысны для беларускай навукі. Ёсць, аднак, таксама і адна станоўчая рыса гэтай сустрэчы: шмат асоб зацікавілася праблемай усходняга манаства і заявіла намер даследаваць манастырскае жыццё ў Беларусі.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

# НАШЫ КАРАНІ

## LX. Рэнесанс

У варунках талерантнасці і прыхільнасці да праваслаўнай Царквы, што запанавалі ў Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім), у гэтак званы „Зыгмунтавы часы" буйна развівалася свецкае і храмавае будаўніцтва.

Перш за ўсё паўставала многа цэркваў. У сёлах і мястэчках іх будавалі ў асноўным з дрэва. У вялікіх гарадах, магнацкіх сядзібах, у заможных манастырах узводзілі пераважна велічныя мураваныя святыні, асабліва пасля таго, як кашталян віленскі князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі атрымаў ад караля і вялікага князя Зыгмунта Старога грамату ў 1511 г. на пабудову ў Вільні велічнага Свята-Успенскага сабора. Адметнай рысай гэтага будаўніцтва было спалучэнне гатычнага стылю з рэнесансавым. Прытым вострыя і суровыя элементы готыкі змякчаліся і згладжваліся, увесь гмах набываў больш спакойны выраз таксама дзякуючы густоўнаму здабленню багатым дэкорам, узбагачаўся ён і шчодрым упрыгожаннем унутры.

Адным з першых такіх збудаванняў была Свята-Барысаглебская царква ў Навагрудку. Гэта ўзведзены ў пачатку XVI стагоддзя на падмурках храма XII ст. коштам князя К. І. Астрожскага, манументальны трохнефавы з шырокай пяціграннай апсідай храм з зоркавымі і вельмі складанымі па малюнку скляпеннямі, а звонку з гранёнымі контрфорсамі і гатычнымі аркамі. Праўда, потым, у XVII ст., калі царкву захапілі уніяты, яны шмат што змянілі ў яе ўнутраным і знешнім выглядзе. А пасля вяртання уніятаў у праваслаўе зноў былі ўнесены дзе-якія змены.

У XVI ст. на тэрыторыі цяперашняй Рэспублікі Беларусь і на нашай Беласточчыне паўстаюць своеасаблівыя цэрквы-крэпасці. Яны ў мірны час былі храмамі, а калі пагражала атака ворагаў, тады станавіліся пэўнымі, цяжкімі для здабыцця сховішчамі для насельніцтва і важнымі абарончымі аб'ектамі. Такія цэрквы былі ўзведзены ў Полацку, Сынковічах каля Зэльвы, Мураванцы пад Шчучынам і ў нас, у Супраслі, славуты Благавешчанскі храм. Пабудаваны ён быў у гадах 1503-1510. Як сцвярджае гісторык мастацтва Вацлаў Хаханоўскі, у царкве Благавешчання гатычныя былі: „алтар з трохграннай апсідай, пераважна нервюрнае зоркавае і крыштальнае скляпенні, а таксама спічастыя вокны і порцікі". Адзначае ён таксама прыкметы візантыйскага стылю як купальнае перакрыцце, шчыты, нішы, частку скляпенняў без нервюраў, падпарадкаванне пабудовы патрабаванням праваслаўнага абраду і іншыя элементы.

Царква ў Супраслі была ўзброена неблагою абарончай сістэмай. Чатыры ашчаціненыя байніцамі вежы, густы шэраг машыкуляў у акружаючым усю царкву фрызе, байніцы ў шчытах, пад шлемамі вежаў, вузкія вокны, магутная жалезная „барана" (заслона) на дзвярах, тоўстыя, узмоцненыя ўнутры слоем палявых аграмадных камянёў сцены — усё яно пераўтварала храм у моцную крэпасць. У чатырохсотгадовай з лішкам гісторыі гэтага храма не здарылася ніводнага выпадку здабыцця яго прыступам, наогул яго не спрабавалі нават здабываць.

Пры такой магутнасці, здавалася б, што царква будзе цяжкай: цёмнай, панурай. Але талент яе дойліда патрапіў скарыстаць усё для прыгажосці аб'екта, і паўстаў храм знешне зграбны і лёгкі, а ўнутры светлы, поўны ўрачыстай узнёсласці. Уражанне святочнасці падкрэсліваў кантраст цёмначырвоных сценаў з яскравай беллю шчытоў, нішаў, машыкуляў. Масіўную прыземную (цокальную) частку гмаху аблягчаў далікатны ромбавы арнамент. Ён быў выкладзены з выпаленых на зелянковы колер цэглаў.

Паўстае пытанне, хто быў творцам гэтай незвычайнай пабудовы. На жаль, пра яго не дайшла да нас ніякая пэўная звестка. Пабудаваны ім храм паказвае, што гэта быў чалавек здольны і адукаваны, які дасканала арыентаваўся ў напрамках у тадышняй еўрапейскай архітэктуры і па-майстэрску валодаў дойлідскім рамяством. Праўдападобна служыў ён прыдворным архітэктарам у Хадкевічаў. Магчыма, што цэрквы-крэпасці ў Сынковічах, Мураванцы — гэта таксама яго творы.

Готыка і рэнесанс не абмінулі і драўлянага храмавага будаўніцтва. Знаўца гісторыі беларускай драўлянай архітэктуры Юры Якімовіч заўважае, што „верагодна пад уплывам готыкі сфарміраваўся тып храма са званіцай..., замяніў ён візантыйскую шаломападобную галаву купальнай, увёў разны карніз і некаторыя іншыя дэкаратыўныя дэталі. Магчыма, рэнесанс меў і больш шырокае ўздзеянне на беларускае культавае дойлідства", але драўляных цэркваў з таго адлеглага часу амаль не захавалася і таму цяжка даць паўнейшы адказ пра тое, якімі асаблівасцямі ў „Зыгмунтавыя часы" вылучалася драўлянае храмавае будаўніцтва на Беларусі, у тым і на нашым Падляшшы.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# НЯДЗЕЛЯ СВЯТЫХ ПРААЙЦОЎ — 26 СНЕЖНЯ 1993 г.

Так называецца другая (перадапошняя) нядзеля перад Раждством Хрыстовым, якая прыпадае заўсёды паміж 24—30 снежнем (11 — 17.12 — па старому стылю). У гэтую нядзелю ўспамінаем усіх пратапластаў Божага народа, святых патрыярхаў, якія жылі ад часу атрымання Закона на Гары Сінаі і пасля гэтай падзеі. Божым народам у Старым Запавеце лічыўся яўрэйскі народ, а ў Новым Запавеце Божым народам з'яўляюцца ўсе хрысціяне. Прааўцы — гэта ўсе старазапаветныя праведнікі: ад Адама да Іосіфа Абручніка, а разам з імі і прарокі, якія прапаведавалі Збавіцеля: ад Самуіла да Іаана Хрысціцеля. Сярод іх апынуліся: Аарон, Гедэон, Давід, Енах, Ісаак, Якаў, Ерэмія, Малахія, Рэвека ці Саламон. Усе яны апраўдалі сябе верай у надыход Месіі. Царква, паказваючы на веру і жыццё святых праайцоў хоча, каб мы ўзбагачалі сваю душу іх станоўчымі рысамі і адпаведна падрыхтаваліся да сустрэчы Раждства Хрыстова. Гэтаму мае служыць сціпласць і лагоднасць першага мучаніка Авеля, святая руплівасць Енаса ва ўсхвальванні Божага імя, цвёрдая вера і богабаязнасць Ноя, паслушэнства Богу Аўраама, святая нявіннасць Іосіфа, мудрасць Майсея ці пустэльніцкае жыццё ў пастаянных роздумах аб Богу. Па словах Святога Рыгора Багаслова, кожная такая станоўчая рыса прадстаўляе адзін з многіх шляхоў, якія вядуць да збавення. Падчас багаслужбы ў гэты дзень успамінаюцца таксама тры святыя юнакі: Ананій, Азарый і Місаіл, а таксама прарок Данііл.

У Евангеліі на гэты дзень — аб званых на вячэру — Царква папярэджвае нас, што годнаму спатканню Госпада можа перашкодзіць нам панаванне цела над духам і любоў да ўсяго зямнога (Лука, 14: 16-24). А Апостал загадвае нам утаймаваць свае зямныя члены: блуд, нячыстасць, юр, благое пажаданне, прагнасць і адкінуць ад сябе гнеў, лютасць, злосць, лаянку і сорамныя словы. Павінны мы скінуць з сябе адзенне старога колішняга чалавека і пераапрануцца ў новага чалавека па вобразу Стваральніка яго (Калас., 3: 4-11).

**С. Н.**

# АПОШНІ ГАСІЦЬ СВЯТЛО

**Сорак восем сутак пан З. з жонкай прасядзелі ў сваім падвале, у невялічкім памяшканні побач гаража. На працягу 48 дзён кармілі іх ліvернай каўбасою і крывянкай, а піілі найтаннейшай гарбатай. З гародніны і фруктаў атрымоўвалі яны толькі цыбулю. Некалькі разоў далі ім напіцца малака.**

*Калі б адно з нас захварэла,* — гаворыць пан З., — *шэльмы гэтыя дазволілі б нам пакінуць белы свет.* На шчасце, пан З. і яго жонка ніколі на здароўе не наракалі; не падвяло яно іх і ў гэтак крайніх умовах. Зняволіла сужонства З. брыгада рускіх рабочых, якіх пан З. нелегальна ўзяў на працу ў сваю рамонтна-будаўнічую фірму.

Фірма паўстала чатыры гады таму і спачатку займалася выключна кансервацыяй дахаў. Пан З. працаваў у ёй сам, час ад часу наймаў сябра; работы было многа, заробку мала. Фірма пачала набіраць размаху, калі пачалі ў ёй працаваць госці з-за ўсходняй мяжы. Спачатку пан З. наймаў двух рускіх асілкаў; быў задаволены іхняй працай і тыя неўзабаве прывалі чатырох рабочых з ліку сваіх знаёмых і сваякоў.

## Ад зары да зары

Суседзі запэўніваюць, што ад двух гадоў у кватэры сужонства З. безупынна прабывала па пяць, а нават і па шэсць грамадзян СНД. Мяняліся больш-менш кожныя тры-чатыры месяцы: выязджалі адны, прыязджалі іншыя.

— *Нават твараў чалавек не ўспяваў запомніць,* — гаворыць найбліжэйшы сусед. — *Але былі гэта людзі спакойныя, не нейкая там мафія, што страляе і мардуе. Найважнейшымі былі ў іх праца і сон; працавалі бывала ад 5-6 раніцы да 11 ночы, увечары пры падвешаных на шнурах лямпачках. На надвор'е не зважалі: працавалі і ў сцюжу, і ў дождж. Усё гэта бачыў я праз плот, бо пан З. перабудоўваў свой дом: калісь была драўляная хаціна, а цяпер вось раскошная віла. Рыхтуюць яе для сына, які мае вярнуцца з-за граніцы. І ўсё рукамі гэтых рускіх; а яны працавалі надзіва ахвярна: рабілі толькі 10-20-мінутныя перапынкі, каб паесці. Прыглянуўся я іх ядзе: кусок абы-якой каўбасы ці крывянкі, малако, хлеб і цыбуля. Аднойчы мая жонка занесла ім па кубку таматнага супу: дзякавалі, не надзякаваліся. Пані З. ніколі ім нічога цёплага не давала, хаця ў Польшчы ёсць такі звычай. І, бедныя яны, не маглі нават пайсці ў сталовую, каб паесці як людзі, бо не на тое яны натужваліся, каб зароблены за цэлы дзень грошы выдаць на адзін абед. З цікавасці пытаў я, колькі яны зарабляюць: спачатку даставалі за дзень сто тысяч, потым сто пяцьдзесят тысяч, да гэтага даходзіла яшчэ і кватэра.*

## І паплылі грашыскі

Фірма пана З. развівалася вельмі паспяхова. Займалася ўжо не толькі дахамі: не было такой працы, за якую пан З. не ўзяўся б: падвышанне перакрыццяў, тэрмаізаляцыя сцен, будова гаражоў і шыкоўных агароджаў. Нормай сталі хуткія тэрміны, арганізаванасць, акуратнасць і памяркоўная цана. Пані Рэната М. расказвае, што фірма смалавала ў яе дах. Два дні тры рускія працавалі ад сёмай раніцы да дзесятай вечара. Даведалася яна, што рабочыя дасталі за сваю працу па 600 тысяч злотых. Фірме пані М. заплаціла 8 мільёнаў злотых. Нічога тады дзіўнага, што пан З. быў задаволены склаўшыміся суадносінамі з замежнымі рабочымі і хацеў, каб такая сітуацыя працягвалася як мага найдаўжэй. На жаль, апошняя прызваная ім для афармлення інтэр'еру брыгада зруйнавала беззваротна гэтую схему. Шэсць мужчын, высокага класа плітнікаў, абліцоўшчыкаў і цесляроў працавалі найдаўжэй — сем месяцаў. Клалі панель, паркет, пліткі і пакрывалі клінкерам знешнюю абліцоўку.

## Чорная няўдзячнасць

— *Гэта ім упала штосьці на мазгі,* — расказвае абураны пан З. — *Дагаварыліся мы наконт плацяжу: згадзіўся я, згадзіліся яны. Нечакана, ні стуль, ні ссюль, зажадалі больш: патрабавалі павысіць ім аклад. Павысіць я не мог, бо не было ў мяне наяўных грошай: я іх не выраблую, толькі зарабляю. Заінвеставаў у будаўнічыя матэрыялы і ўлез у даўгі і крэдыты. Гавару ім — рабяты, не шуміце, бо нічога з гэтага не будзе. Крыўды вам няма: умовы выдатныя, жывыя грошы, асобная кватэра, умывальнік, можна чай сабе зварыць, бо паставіў ім электрычную плітку, нават асобная прыбіральня, адным словам — умовы экстра. Ну, колькі ў Варшаве каштуе наймарнейшы пакоік ці гатэль, колькі трэба было б плаціць — а ў мяне амаль дарэмшчына. І так падзякавалі мне. Было гэта ў нядзелю вечарам. Пайшоў я да іх уніз пагаварыць. Нечакана адзін выкрунуў мне рукі, другі заткнуў рот і гавораць мне — ёб тваю маць, пагаворым з табою па-другому. Усё адбылося ўмомант. Двух скочылі наверх і прывялі жонку. Замкнулі нас у тым памяшканні, у якім дагэтуль самі пражывалі. Намагаўся я крычаць, клікаць ратунку, але прыказалі сядзець ціха, бо калі не — то каюк. І што, не паверылі б вы шасці бамбізам? Напэўна, прыкончылі б.*

## 48 сутак

Пан З. не думаў, што прыйдзецца яму правесці ў „астрозе" аж сорак восем дзён. Меркаваў, што абкрадуць кватэру і ўцякуць са здабычай. Тым часам „бамбізы" пасяліліся як трэба. Закватараваліся ў салоне, карысталіся таксама спальняй, кухняй і ваннай. Самі знайшлі сабе працу і вялі сябе так, быццам бы ім нікуды не спяшалася. Прымалі тэлефоны да сужонства З. і паведамлялі, што пан і пані выехалі ў водпуск. Быў акурат ліпень, потым жнівень, дык інфармацыя гучала вельмі імаверна.

Толькі найбліжэйшыя суседзі сужонства З. мелі нейкія сумненні: пан З. быў чалавекам аператыўным, меў многа інтарэсаў; займаўся таксама гандлем і не маглі сабе ўцяміць, што мог ён выехаць на такі доўгі час. Тое, што не паведаміў суседзяў пра свой выезд было нормай: занадта з сабою не дружылі. Усё-такі адзін з суседзяў зачапіў увіхаючыхся каля сядзібы рускіх і спытаў, куды гэта спадарства З. выехалі. — А к нам, у Расею — пачуў у адказ. Дык я падумаў — кажа сусед — што паехалі круціць інтарэсы. Цяпер многія палякі туды ездзяць рабіць бізнес, а для пана З. грошы былі заўсёды найважнейшыя.

27 жніўня вечарам рускія выехалі. Выезд бачылі суседзі. Шэраг характарыстычных сумак у сіня-чырвоныя палосы і іншыя чамаданы не пакідалі сумненняў.

## Прыкрае вызваленне

Зняволены ў падвале пан З. таксама пачаў падазраваць, што прыгнятальнікі выехалі, але ўпэўнены ў гэтым ён не быў. Каб упэўніцца пачакаў яшчэ паўсутак. Калі на наступны дзень ніхто не прынёс ні яды, ні напітку, пан З. рашыўся: выбіў шыбу ў падвальным акне і пачаў клікаць ратунку. На жаль, яго крык глушылі густа насаджаныя тут кусты і дрэвы ды самаходы на вуліцы. Суседзі пачулі яго кліч толькі недзе каля 21-ай. Крык даходзіў з апусцелага і патануўшага ў цемры дома спадарства З. Паведамілі паліцыю: прыехала з уключанай сірэнай. Хутка выявілі месца знаходжання сужонства З. Паліцэйскі спецыяліст па ўзломах адкрыў дзверы; спярша галоўныя, потым у падвал. Пазвалі хуткую дапамогу, але лекар заявіў, што няма патрэбы класці сужонства З. у бальніцу, бо стан іх здароўя не выклікае вялікай трывогі.

Паліцыянт, які прымаў удзел у акцыі, расказвае:

— *У кватэры панавала бязладдзе, але бруду не было. На стале ў салоне, стаяў, абапёрты аб флакон, белы канверт з надпісам „паліцыя". Пісьмо да нас было напісана па-руску і змяшчала тлумачэнне другога боку канфлікту. Выявілася, што пан З. не плаціў рускім рабочым і марудзіў з заплатай, гаворачы, што акурат не мае грошай. Пасля чатырох месяцаў работы быў ён вінаваты ім 56 мільёнаў злотых, таму стэрарызавалі яго і замкнулі. Думалі забраць грошы і выехаць, але папалася ім работа, дык асталіся яшчэ сорак восем дзён, працуючы на ўласны рахунак без пасрэдніцтва пана З. Выязджаючы, узялі са схованкі належныя ім 56 мільёнаў, пакінуўшы неблагую рэшту: 120 мільёнаў злотых, 5 тысяч амерыканскіх долараў і 2 тысячы фунтаў стэрлінгаў. У схованцы была таксама некранутая біжутэрыя пані З. Пан З. пачаў рэзка гэтым тлумачэнням рускіх пярэчыць, пераконваў, што нічога ім вінаваты не быў, што яны — зладзеі і азіяцкая дзіч, толькі не мог вытлумачыцца, чаму не ўкралі ўсяго. Калі так крычаў пра гэту азіяцкую дзіч, падумаў я сабе,* — успамінае паліцыянт, — *што ад гэтай „дзічы" бываюць у сто разоў горшыя польскія шакалы.*

**Цэлая гэта „руская афера" скончылася наогул для пана З. не найгорш, але і не найлепш. Не найгорш, бо не абрабавалі яго і волас яму з галавы не ўпаў. Не найлепш, бо чакае яго следства ў справе нелегальнага найму замежных рабочых ды яшчэ больш непрыемныя допыты ў скарбовых установах.**

**А сваім шляхам, варта прывесці вядомую прымаўку: як пасцелешся, так і выспішся.**

**ЯНІНА РАТЫНЬСКА**
**(„Przyjaciółka", nr 47)**




**ДЗЯКУЮ!**

Шчыра дзякуй табе, Вася,
Што у „Ніву" напісаў,
Роднай мовы не забыўся,
На старонках аб'явіўся.
Будзеш шчыра ты пісаць,
Будуць шчыра ўсе чытаць,
Унукі добра ўспамінаць.

А табе, Валодзя мілы,
Дзякую ад цэлай „Нівы",
Што пра нас ты не забыў,
На старонках тэкст змясціў.

Прачытаў я вашы думкі,
Мне на сэрцы весялей.
Авангард пачаў збірацца!
У „Ніве" будзе багацей!

**МІКАЛАЙ ЛУК'ЯНЮК**

# КАНФЕРЭНЦЫІ, КАНФЕРЭНЦЫІ...

У папярэдніх гутарках я расказаў пра дзве міжнародныя канферэнцыі, якія былі праведзены ў Мінску і Полацку. Не былі яны аднак адзінымі навуковымі сустрэчамі, у якіх прыняў я ўдзел у 1993 годзе.

Хацеў бы я тут пералічыць усе канферэнцыі, на якіх я прадставіў даклады ў 1993 годзе:

— Міжнародная навуковая канферэнцыя ў Бярэсці, арганізаваная навуковым цэнтрам імя Ф. Скарыны і Берасцейскім педагагічным інстытутам. Была яна праведзена пад лозунгам: „Беларуска-польскія сувязі на працягу стагоддзяў". Мой даклад меў загаловак „Польшча на старонках „Вольнай Беларусі";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная саракагоддзю Кафедры ўкраінскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Мой даклад: „Асоба ўкраінца ў народнай інтэрпрэтацыі беларусаў з усходняй Беласточчыны";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя „Дарога да ўзаемнасці", арганізаваная Польскім беларусазнаўчым таварыствам, Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы, Саюзам палякаў у Беларусі, Польскім навуковым таварыствам у Беларусі. Мой даклад: „Рэлігійныя беларускія праблемы на старонках „Пшэглёнду Віленскага";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя „Усходнеславянскія літаратурныя і моўныя кантакты", арганізаваная Вышэйшай педагагічнай школай у Ольштыне. Мой даклад: „Беларусь і беларусы ў даследаваннях Леана Васілеўскага";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя „Праблемы беларускай літаратуры ў свеце", арганізаваная Педагагічным інстытутам у Менску. Мой даклад: „Пачаткі беларускага літаратурнага руху ў пасляваеннай Польшчы";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя „Рым-IV", арганізаваная навуковым цэнтрам імя Ф. Скарыны і некалькімі польскімі навуковымі ўстановамі. Мой даклад: „Традыцыя і наватарства беларускай паэзіі ў пасляваеннай Польшчы";

— Міжнародная навуковая канферэнцыя „Літаратура забытая і вярнутая (Расія, Украіна, Беларусь)", арганізаваная Кафедрай усходнеславянскай кампаратыстыкі Варшаўскага універсітэта. Мой даклад: „Беларускае літаратурнае эміграцыйнае аб'яднанне „Шыпшына".

У гэтым годзе плануецца яшчэ адна міжнародная канферэнцыя, у Навагрудку, прысвечаная 195 гадавіне з дня нараджэння Адама Міцкевіча, дзе маю прадставіць даклад: „Адам Міцкевіч у ацэнках беларускай эміграцыі".

Агулам, улічваючы дзве канферэнцыі, аб якіх я пісаў у папярэдніх гутарках, удзельнічаў я ў гэтым годзе ў дзевяці навуковых сустрэчах і маю намер прыняць удзел яшчэ ў адной.

Пры гэтай нагодзе прагну падкрэсліць, што ўсе такога тыпу сустрэчы маюць у жыцці навукоўца супрацоўніка і публіцыста аграмаднае значэнне. З'яўляюцца яны дасканалай нагодай сустрэцца са старымі знаёмымі, наладзіць кантакты з незнаёмымі даследчыкамі з розных краін. Асабліва значэнне для мяне мела канферэнцыя „Рым-IV", арганізаваная ў Гародні. Сустрэў я там, між іншым, выдатных прадстаўнікоў беларускай эміграцыі — маіх старых знаёмых — Вітаўта Кіпеля і Янку Запрудніка, і з увагай выслухаў іх цікавыя выступленні.

Варта падкрэсліць і яшчэ адну рысу гэтых маіх сустрэч. Характарызуюцца яны абсалютнай свабодай выказваных меркаванняў, характарыстык і ацэнак. Вельмі часта адзін і той самы гістарычны факт ці падзея па-рознаму ацэньваюцца даследчыкамі ў залежнасці ад таго, якую яны прадстаўляюць навуковую або грамадска-палітычную арыентацыю, а таксама ў залежнасці ад краіны, якую яны прадстаўляюць.

На канферэнцыях гэтых пануе поўная талерантнасць і нават пры наяўнасці палемічных і часта супрацьстаўных поглядаў не выступаюць у іх ходзе праявы дыдактызму, так характэрнага мінуламу, калі многім даследчыкам здавалася, што толькі яны прадстаўляюць адзіную слушную навуковую метадалогію і толькі яны маюць беспамылковыя ідэі і погляды.

Якраз у гэтай талерантнасці праяўляецца новае ў сучасным навуковым руху: прыгажосць і еднасць у разнароднасці.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ШТО КАМУ НАКАНАВАНА

Макарка вельмі любіў вешацца. Цягнула яго ў пятлю, і ўсё тут. Двойчы сябры здымалі яго.

- Ты што, зусім звар'яцеў? - лаялі яны хлопца.

- А вам якая справа? - заўсёды злаваўся Макарка, а потым гаварыў, - Я і сам не ведаю, чаму так адбываецца. Ведаеце, хлопцы - як толькі вясна надыходзіць, хочацца мне павесіцца, і ўсё тут!

- А ты з'ездзі да шаптухі ў Орлю, ці да манаха якога-небудзь. Мо яны што парацяць? - смяяліся сябры.

Гэтак паўтаралася некалькі разоў у год.

Бацькі лаялі сына, але не ведалі, што і як трэба рабіць.

- Гэта ўсё ад злоўжывання алкаголем, - меркавалі суседзі.

Пазнаёміўся Макарка з адной дзяўчынай. Паехаў раз з сябруком на танцы, ажно за сорак кіламетраў ад сваёй вёскі. Верка сама прыкмеціла Макарку і, як заігралі "Белае танга", запрасіла. З тае пары і пачаў Макарка да яе ездзіць.

- Калі вяселле? - пыталіся суседзі.

- А навошта жаніцца, - звычайна адказваў Макарка, - калі жыццё нейкае не вельмі цікавае.

- А ты ажаніся, - казалі людзі, - і дзяўчына прыгожая, і цябе, відаць, кахае.

Нарэшце наважыўся Макарка.

Калі вянчаліся, згасла жаніхова свечка. Ледзьве ад Верынай запаліў.

- Гора будзе, - шапталіся госці. - Не пажыве ён доўга.

Праз пяць месяцаў пасля вяселля - Вера была чацверты месяц цяжарная - Макарка зноў засумаваў.

- Што з табою? - непакоілася жонка.

- Сам не ведаю, - адказваў Макарка, - сумнавата мне неяк.. А чаму - і сказаць не магу.

Ноччу пайшоў Макарка на двор. Чакала яго Вера, чакала, і не дачакалася. Выйшла - і бачыць: вісіць муж на дрэве. Пачала яна крычаць. Збегліся людзі, знялі Макарку, але ўжо нежывога.

Няма словаў, каб расказаць, што перажывалі Вера і бацькі.

На пахаванне сабралася ўся вёска. Адны казалі, што дурны, другія - што такі лёс наканаваны. Вера галасіла, а потым аслабла і паклалася ў ложак.

- Заставайся з намі, - казалі ёй пасля пахавання Макаркавы бацькі. - Будзеш як дачка родная. Як народзіш, уладкуем на прадпрыемства, а дзіцятка ўжо самі неяк дапільнуем.

- Не, паеду да сваіх бацькоў, - адказала Вера. - Як тут жыць? Людзі будуць казаць невядома што. Ды і ў сваёй хаце лепш.

Нарадзіла Вера сына. Бацькі дапамагалі гадаваць малога. Як споўніўся Андрэйку год, пасватаўся да яе Толік.

Верчыны бацькі бачылі, што гэта за чалавек - злосны, нядобры. Спрабавалі яны адгаварваць дзяўчыну, але тая нікога не слухала. Вырашыла пабрацца з ім.

- Думаеш, я твайго байструка буду гадаваць? - ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказаў Толік за вясельным сталом.

- Мой сын - не байструк! - пакрыўдзілася Вера.

- Але гадаваць яго ўсё адно не хачу.

Верыны бацькі вырашылі самі гадаваць малога. Думалі, каб было Веры лепш. Лепш, аднак, не сталася. Нажыла яна з Толікам траіх дзяцей, але новы муж здзекаваўся з яе, а часам і біў. З тых пабояў Вера і звар'яцела. Паклалі яе ў шпіталь, але не дапамагло гэта. Так і засталася хворай. Муж выгнаў яе з дому і не аддаў ані сына, ані дзвюх дачок.

Бацькі даглядаюць за Верай і дапамагаюць Андрэю, які адбыў ужо войска і ажаніўся.

Надумала неяк Вера завезці кветкі на Макаркаву магілу. Наняла ў суседа самаход і паехала на могілкі.

- Вось, бачыце, калі я зразумела, што ён варты кветак, - тлумачыла Вера людзям, што былі ў той час на могілках. - Ён быў добры. Толькі каб не тое няшчасце...

Пачала Вера галасна праклінаць усіх. Сусед крыкнуў на яе, упіхнуў у самаход і павёз дахаты...

**АЎРОРА**

# ФОКУСЫ

У адной вёсцы здарылася такая гісторыя. Прыехаў з горада малады чалавек і папрасіў свайго хроснага бацьку на 18-тыя гадавінкі.

Да гадавінак толькі тыдзень. Дзядзька Коля, як багаты гаспадар, падумаў аб дарагім падарунку. Была аднак перашкода. Цётка Манька заявіла мужу, што нідзе ён не паедзе, бо няма ёй у што апрануцца. У горад трэба прыгожа адзецца, а то падумаюць, што нейкая галота наехала.

Добра што прыжыліся сякія-такія грошы. І пачалі Коля з Манькай рыхтавацца да паездкі. У адзін дзень наведалі Бельск, дзе купілі футра. Муж хацеў, каб было самае моднае — з „лямы". На другі дзень паехалі ў Гайнаўку за ботамі. Купілі модныя казакі аж за мільён злотых. Цётцы асталося зрабіць толькі прычоску. Зноў трэба было ў Бельск. Усё ішло спраўна і надзейна. Дзень нараджэння настаў. Цётка Манька размалявалася, надзела боты, сваё моднае футра з „лямы" і ўзялася за фрызуру. Муж аднак заўважыў, што „андуляцыя" не надта добра выглядае. Жонка яму паказалася смешная і „негустоўная".

І што тут рабіць?

Неўзабаве пачалася сварка. Цётка Манька, бойкая баба, так разышлася, што скінула свае новыя боты і пачала імі лупіць дзядзьку Колю дзе папала. Той як бы і гэтага чакаў і хуценька вышмыгнуў з хаты. Толькі яго і бачылі.

Добра што падарунак раней прыхаваў ён у машыне.

**К. С.**

# KOMUNIKAT

Instytut na rzecz Demokracji w Europie Wschodniej (IDEE) ogłasza po raz trzeci konkurs dla niezależnej prasy lokalnej. W konkursie mogą brać udział gazety, które wydały co najmniej 5 numerów i nie są organami partii politycznych ani samorządów lokalnych. Pisma poruszające problemy mniejszości, zwłaszcza mniejszości etnicznych czy narodowych, są szczególnie zapraszane do udziału w konkursie.

Na nagrody w konkursie przeznaczony będzie przede wszystkim sprzęt komputerowy.

Aby wziąć udział w konkursie, należy nadesłać do 10 stycznia 1994 do **IDEE, skr. poczt. 311, 00-950 Warszawa** KARTKĘ POCZTOWĄ z własnym dokładnym adresem. W odpowiedzi IDEE wyśle formularz ankiety.



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

## Кісель

**Аўсяны**

Прадукты:

*1 шклянка аўсянкі (можна ўзяць платкі),*
*вада,*
*соль.*

Аўсянку заліць цёплай вадой, паставіць на цэлыя суткі. Вадкасць працадзіць, аўсянку адціснуць. Гатаваць пасоленую па смаку вадкасць, пакуль маса не пачне гусцець. Разліць кісель у маленькія місачкі, астудзіць.

Падаваць кісель, калі ён застыне, выняўшы яго з формы і паліўшы халодным цыбульным соусам (пасечаная цыбуля, падсмажаная на алеі).

**Малочна-аўсяны**

Прадукты:

*10 дэкаў аўсяных платкаў,*
*2 шклянкі малака,*
*1 лыжка крухмалу,*
*соль.*

Аўсяныя платкі размяшаць у малацэ і паставіць, каб яны размоклі. Як толькі яны набракнуць, працадзіць праз сіта. У малацэ размяшаць муку, пасаліць і загусціць, пастаянна памешваючы і не дапускаючы да кіпення.

Кісель можна падаваць салодкім, дадаючы да працэджанага малака 2 лыжкі цукру.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Мілы Астроне! Усім ты разгадваеш сны, разгадай, калі ласка, і мой. Трэба сказаць найперш, што мне часта сняцца даволі кашмарныя сны. Чаму пішу даволі? А таму, што няма там ніякай крыві, але ўсё роўна мне вельмі страшна. А сны гэтыя наогул паўтараюцца. Заўсёды бывае так, што я хачу ўзысці наверх, але маю праблемы, бо нешта мне перашкаджае. Найчасцей бывае так, што лесвіца абрываецца і далей няма як ісці. Бывае, што далей уверх лесвіца становіцца плоская і без сходкаў. Узысці тады немагчыма, а я мушу ісці.

А вось на гэты раз мне сніцца, што я таксама іду наверх у нейкім блёку. Узышла на нейкую лесвічную пляцоўку, затрымалася і глянула ўгару. Далей ісці не магу. Замест сходаў ляжыць нейкая вялізная шафа, адвернутая задам, якая даходзіць аж да столі. Стаю і вельмі баюся ісці далей, бо як жа я па гэтай шафе палезу? Яна ж гладкая зусім, ды падыходзіць пад самую столь, што ўзлезці не будзе як.

І раптам я ўжо быццам наверсе. Іду з дачкой і сяброўкай. Заўважаю, што падлога зроблена з глазурных плітак. Але ведаю, што там іх толькі адзін пласт, падлога вельмі тонкая. Мы ў кожную хвіліну можам праваліцца на ніжні паверх, у вялікую залу. Ідзем вельмі асцярожна, паволі пасоўваючы ногі. Раптам бачу: перад намі стаіць падвойная драбіна. Я толькі паспела падумаць, што ўжо адной гэтай драбіны хапіла б, каб падлога заламалася, а што будзе, калі мы яшчэ будзем праходзіць ля яе, як, мінаючы драбіну, убачыла, што падлога трэснула, а пліткі з гукам пасыпаліся. Праўда, дзіркі ніякай я не ўбачыла, але са страху схапіла за рукі дачку і сяброўку і мы разам скочылі бліжэй сцяны, дзе тыя пліткі яшчэ трымаліся. І так мы выратаваліся і не праваліліся ўніз. Кепскія сны, праўда, Астроне?

**Галіна**

Галіна! Яны сведчаць пра цяжкасці ў тваім жыцці. Ты імкнешся ўверх, але заўсёды ёсць нейкія перашкоды і ты не можаш узысці спакойна. Твой апошні сон сведчыць аб тым, што ў даны момант у цябе, як кажуць, вельмі крохкія падставы экзістэнцыі. Нешта табе пагражае, але ў гэтым усім могуць табе дапамагчы дачка і сяброўка, як і ты памагла ім выбрацца з бяды.

**АСТРОН**

# ВІРАВАНКА




1. ім самкі кормяць дзяцей, 2. афонія, 3. неруш, 4. вершаваны твор на гістарычную тэму, 5. штучны вадаём для плавання, 6. сібірская рака, 7. дзіця без бацькоў, 8. мінерал для вырабу фасфатных угнаенняў, 9. пагалоўе сельскагаспадарчай жывёлы, 10. выдача ў доўг, 11. весялун, непаседа, 12. цяжкая інфекцыйная хвароба.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць рызыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на двухлітарную крыжаванку з 45 н-ра:**

**Гарызантальна:** карэта, пастка, рапіра, мара, Сава, падданства, жарт, Наса, какаду, Індура, талон.

**Вертыкальна:** Калыма, тара, пара, каліва, пістаноўка, рапарт, Савана, Жаклін, Сафрон, кара, душа.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

